# МІНСКАЯ ПРАЎДА

Газета заснавана 1 лістапада 1950 года

Аўторак, 5 ліпеня 1994 года

№ 69 (10769)

Цана 200 руб.





## ВЕЧНАЯ ЎДЗЯЧНАСЦЬ ВАМ, ВЫЗВАЛІЦЕЛІ!

Золатам і серабром баявых ордэнаў і медалёў заблішчаў 2 ліпеня Палац спорту беларускай сталіцы. Больш як сем тысяч былых франтавікоў, партызан і падпольшчыкаў прыйшлі сюды, каб адзначыць 50-годдзе вызвалення роднай Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

У прэзідыуме ўрачыстага сходу разам са Старшынёй Вярхоўнага Савета Беларусі Мечаславам Грыбам, Старшынёй Савета Міністраў Вячаславам Кебічам, праслаўленымі военачальнікамі Вялікай Айчыннай вайны, Героямі Савецкага Саюза, кавалерамі ордэнаў Славы трох ступеней — удзельнікамі беларускай наступальнай аперацыі "Баграціён", знаходзіліся кіраўнікі і члены ўрадавых дэлегацый Расійскай Федэрацыі на чале са старшынёй урада Віктарам Чарнамырдзіным, іншых дзяржаў Садружнасці, суседняй Літвы, якія прыбылі на святкаванне.

На ўрачыстасці былі запрошаны прадстаўнікі дзяржаўных і грамадскіх арганізацый, прамысловых і сельскагаспадарчых прадпрыемстваў і аб"яднанняў, духавенства, пасольстваў і консульстваў краін блізкага і далёкага замежжа, гарадоў-пабрацімаў, першай польскай пяхотнай дывізіі імя Касцюшкі, авіяпалка "Нармандыя-Нёман".

Сход адкрыў Старшыня Вярхоўнага Савета Беларусі Мечаслаў Грыб. З дакладам аб 50-годдзі вызвалення рэспублікі выступіў Старшыня Савета Міністраў Вячаслаў Кебіч. Подзвіг салдат, афіцэраў, генералаў і маршалаў 1-га Прыбалтыйскага і трох беларускіх франтоў, адважных партызан і падпольшчыкаў, якія ажыццявілі наступальную аперацыю "Баграціён", падкрэсліў прэм"ер-міністр, упісаны не толькі ў гісторыю Вялікай Айчыннай і другой сусветнай войнаў. Гэта яркая і трагічная вяха ў сусветнай гісторыі, якая і сёння напамінае: людзі, будзьце пільнымі, не дапусціце на зямлі паўтарэння глабальнага кровапраліцця! Мільёнамі жыццяў лепшых сыноў і дачок усіх народаў былога Савецкага Саюза заплачана за свабоду Беларусі, усёй вялікай дзяржавы. Памяць аб героях бессмяротная, пакаленні беларусаў назаўсёды захаваюць у сэрцах падзяку вызваліцелям.

З трыбуны ўрачыстага сходу прагучалі сардэчныя словы віншаванняў беларускаму народу ў сувязі з паўвекавым юбілеем вызвалення ад фашысцкай чумы, што выказалі кіраўнікі дэлегацый. Прэм"ер-міністр урада Расіі Віктар Чарнамырдзін зачытаў спецыяльнае пасланне Прэзідэнта Расійскай Федэрацыі Барыса Ельцына, у якім змяшчаюцца найлепшыя пажаданні народу нашай рэспублікі, выказана ўпэўненасць, што традыцыйныя дружба і брацтва, што спакон вякоў аб"ядноўвалі Расію і Беларусь, не толькі захаваюцца, але і будуць умацоўвацца.

Кіраўнікі дэлегацый уручылі беларусам свае нацыянальныя сувеніры і памятныя падарункі, якія былі з удзячнасцю прыняты сходам.

У заключэнне ўрачыстасці адбыўся вялікі святочны канцэрт вядучых майстроў і мастацкіх калектываў рэспублікі.

У той жа дзень ва ўсіх раёнах Мінска, гарадах і вёсках рэспублікі адбыліся святочныя мерапрыемствы з народнымі гуляннямі, канцэртамі на плошчах, у скверах і парках, ушанаваннем ветэранаў-вызваліцеляў.

x x x

Быццам усе кветкі свету падарылі сонечнай раніцай 3 ліпеня мінчане і шматлікія госці беларускай сталіцы сівым ветэранам, якія роўна паўстагоддзя назад вызвалілі Мінск і ўсю Беларусь ад фашысцкіх захопнікаў.

Галоўнай падзеяй стала ўрачыстае шэсце старых салдат, афіцэраў, генералаў, былых партызан і падпольшчыкаў па праспекту Францыска Скарыны ад плошчы Незалежнасці да плошчы Перамогі, у час якога іх сардэчна віталі тысячы мінчан. Уздоўж усяго праспекта ігралі духавыя аркестры, спявалі, танцавалі хлопцы і дзяўчаты ў яркіх нацыянальных касцюмах. На падыходзе да плошчы Перамогі калоны ветэранаў прайшлі праз сімвалічныя трыумфальныя вехі — па колькасці гадоў вайны — ад 1941 да 1945 года.



Пад сумную мелодыю ваеннага аркестра да падножжа велічнага помніка воінам Чырвонай Арміі, партызанам і падпольшчыкам, якія загінулі смерцю храбрых у баях з гітлераўцамі, апускаюцца вянкі і кветкі ад дэлегацый Вярхоўнага Савета рэспублікі на чале з яго Старшынёй Мечаславам Грыбам, Савета Міністраў Беларусі на чале з Вячаславам Кебічам, рэспубліканскага Савета ветэранаў, воінаў Нацыянальнай беларускай арміі. Павісае над плошчай мінута маўчання, якую парушае толькі гучанне метранома. Аддаючы воінскія ўшанаванні героям, па пляцоўцы цырыманіялаў ля Вечнага агню чаканіць крок рота ганаровай варты воінаў Мінскага гарнізона.

У гэты ж дзень перад адлётам на радзіму вянкі да абеліска на плошчы Перамогі ўсклалі ўрадавыя дэлегацыі Расіі на чале з Віктарам Чарнамырдзіным, іншых рэспублік Садружнасці, замежных краін, якія наведалі Беларусь у сувязі з юбілеем.

Гірлянды, вянкі і кветкі былі таксама ўскладзены да Кургана Славы ля маскоўскай шашы, на мемарыяльным комплексе "Хатынь", да стэлы "Мінск—горад-герой". Мечаслаў Грыб і члены Прэзідыума Вярхоўнага Савета рэспублікі наведалі могілкі ля маскоўскай шашы і ўсклалі вянкі на магілы Пятра Міронавіча Машэрава, Сяргея Восіпавіча Прытыцкага, Ціхана Якаўлевіча Кісялёва, Васіля Іванавіча Казлова і іншых пахаваных тут былых кіраўнікоў рэспублікі.

Кветкамі і вянкамі былі прыбраны ў гэты дзень воінскія могілкі, брацкія магілы, помнікі і абеліскі па ўсёй тэрыторыі Беларусі.

Ва ўсіх раёнах Мінска, у парках, скверах, на плошчах сталіцы прайшлі масавыя гулянні, ваенна-спартыўныя святы, канцэрты.

Свята завяршылася позна вечарам салютам-феерверкам.

*БЕЛІНФАРМ.*

**НА ЗДЫМКАХ:** святкаванне 50-годдзя вызвалення Беларусі ад фашысцкіх захопнікаў у г.Мінску.

*Фота Анатоля БАСАВА.*





## СУВЕНІРЫ — ВЕТЭРАНАМ

У мінулую суботу ў аблвыканкоме адбылася сустрэча групы ўдзельнікаў Вялікай Айчыннай вайны з гарадоў і раёнаў Міншчыны з кіраўніцтвам вобласці. Адкрываючы яе, намеснік старшыні аблвыканкома С.С.Паўлюкевіч горача павіншаваў ветэранаў з залатым юбілеем вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

Затым пачалося ўручэнне памятных сувеніраў Прэзідыума Вярхоўнага Савета і Савета Міністраў, а таксама Міністэрства сельскай гаспадаркі і прадуктаў харчавання Рэспублікі Беларусь. Уручалі падарункі і віталі ветэранаў першы намеснік старшыні аблвыканкома А.М.Жук і намеснік міністра сельскай гаспадаркі і прадуктаў харчавання Д.Д.Руцкі.

Прывітальныя і віншавальныя словы выказалі першы намеснік кіраўніка Кіеўскай абласной дзяржаўнай адміністрацыі М.А.Барсук і першы намеснік старшыні Маскоўскай абласной Думы А.В. Далгалапцеў. Яны ж перадалі кіраўніцтву Міншчыны памятныя сувеніры ад сваіх рэгіёнаў.

Дэлегацыі ветэранаў гарадоў і раёнаў вобласці ўдзельнічалі ў рэспубліканскім урачыстым пасяджэнні, прысвечаным 50-годдзю вызвалення Беларусі.

*/Наш кар./.*

**На здымках:** генеральны дырэктар птушкафабрыкі імя Крупскай **К.М.ДУБОЎСКІ;** дэлегацыі ветэранаў Маладзечанскага, Лагойскага і Любанскага раёнаў.

*Фота Анатоля БАСАВА.*

## ПА ЗАКЛІКУ СЭРЦА

У ардэнаносным Барысаве цікава прайшлі ўрачыстасці, прысвечаныя юбілейнай даце. На свята па закліку сэрца сабралася шмат былых франтавікоў, падпольшчыкаў і партызан, якія ля помніка ахвярам фашызму ўсклалі кветкі. У Палацы культуры адбыўся сход, а на цэнтральнай плошчы — мітынг.

За горадам госці і гараджане ўбачылі прадстаўленне летчыкаў, спартсменаў-парашутыстаў, паказальныя выступленні прадэманстравалі воіны-танкісты і члены спартыўнага клуба "Беркут". Адбыўся канцэрт.

*/Наш кар./.*

■ Прэзідэнцкі марафон

## ЗНОЎ ВЫРАШЫЦЬ БОЛЬШАСЦЬ

Як паведамілі карэспандэнту Белінфарма у Цэнтральнай камісіі па выбарах Прэзідэнта рэспублікі, другі тур галасавання адбудзецца, калі зноў не менш палавіны ўсіх выбаршчыкаў, унесеных у спісы для галасавання, "ахвяруюць" сваім выхадным днём і прыйдуць 10 ліпеня на выбарчыя ўчасткі. Для таго, каб хто-небудзь з двух кандыдатаў стаў Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь, неабходна сімпатыя большасці прыняўшых удзел у галасаванні. У выпадку, калі другі тур не адбудзецца, ці ніводнаму з кандыдатаў не ўдасца набраць больш палавіны галасоў выбаршчыкаў, Цэнтрвыбаркам вымушаны будзе назначаць паўторныя выбары з паўторным вылучэннем кандыдатаў.

Дарэчы, галасаванне па другому туру будзе арганізавана толькі ў афіцыйна аб"яўлены дзень. Тут ужо тым, хто па ўважлівых прычынах не зможа знаходзіцца па месцы жыхарства, прыйдзецца пакінуць пры сабе сімпатыі да таго ці іншага кандыдата на прэзідэнцкае крэсла.

## НЕ ДА ВЫБАРАЎ — ВОДПУСКІ "ГАРАЦЬ"

Выбаршчыкам не трэба здзіўляцца, калі 10 ліпеня на выбарчых участках у саставе камісій яны ўбачаць новых людзей. Гэта зусім не азначае, што абнаўленні звязаны з крыміналам. Як стала вядома карэспандэнту Белінфарма, пераважная большасць членаў камісій, асабліва ў сельскай мясцовасці, у звычайны час працуюць настаўнікамі. І вакантнасць прэзідэнцкай пасады для іх, як ні для каго іншага, "небяспечная на вынікі", паколькі яны не змогуць выкарыстаць вызначаны законам два месяцы водпуску.

Дарэчы, што датычыць першага тура, то ні ў Цэнтравыбаркам, ні ў абласныя камісіі па выбарах не паступіла ніводной істотнай заявы, якая дае падставы сумнявацца ў аб'ектыўнасці падведзеных вынікаў галасавання.

*БЕЛІНФАРМ.*

## ХТО ЧАГО ВАРТЫ?

***Не будзем лішні раз напамінаць аб пераканаўчай перамозе на першым этапе прэзідэнцкіх выбараў прыхільнікаў Лукашэнкі. Але адзначым, што ёсць месцы, дзе большасць людзей аддалі свае галасы за Кебіча. На Восаўскім выбарчым участку Салігорскага раёна, напрыклад, з 780 выбаршчыкаў 621 чалавек прагаласаваў за Вячаслава Францавіча. Амаль усе выбаршчыкі ўчастка — працаўнікі калгаса "Парыжская камуна". Таму два пытанні мы адрасавалі яго старшыні І.М.Макарэвічу.***

**— Іван Міхайлавіч, чым, на вашу думку, выкліканы такі дружны калектыўны выбар?**

— У першую чаргу нашы людзі галасавалі за калгасы, без якіх старыя, адзінокія проста не выжывуць. А за захаванне калектыўных гаспадарак В.Кебіч змагаўся актыўна і перамог. У яго вялікі вопыт дзяржаўнага і гаспадарчага кіраўніцтва. Ён выступае за цесную сувязь з Расіяй. У час сходаў, якія праводзілі на ўчастках, фермах, калгаснікі ацэньвалі якасць усіх прэтэндэнтаў і зрабілі такі выбар.

**— Якія вынікі галасавання будуць на вашым участку пасля другога тура?**

— Не хачу прадказваць, але, думаю, выбар будзе ранейшым. Людзі бачаць хто чаго варты. Асабіста я буду зноў галасаваць за Кебіча. Бо ён, як і большасць з нас, выйшаў з вёскі, ведае нашы праблемы, умее з тысячы пытанняў выбраць галоўнае і вырашыць яго. Але хто б ні стаў Прэзідэнтам, нашы калгаснікі ў першую чаргу разлічваюць на свае сілы. Бо сеяць, касіць, даіць да нас са сталіцы не прыедзе ніхто.

*Запісаў Уладзімір БЫЧЭНЯ.*

## ЗА СУМЛЕННУЮ "ГУЛЬНЮ"

***Віляйчане дастаткова ўпэўнена выказаліся яшчэ ў першым туры галасавання. Аддаўшы перавагу З.Пазняку, яны тым самым прадэманстравалі сваю прыхільнасць да нацыянальнага адраджэння. Але рэчаіснасць паставіла перад правам іншага выбару. Які ж сённяшні настрой выбаршчыкаў?***

**С.Сінельнікаў, дырэктар завода "Зеніт":** У прынцыпе я згодны з платформамі абодвух кандыдатаў. А задаволіць мяне той, які выканае волю народа, выказаную на саюзным рэферэндуме. Напэўна, ніхто так востра не адчуў сумныя вынікі разрыву эканамічных сувязей паміж дзвюма рэспублікамі як мы, кіраўнікі вытворчых калектываў. Страціўшы рынкі збыту, мы паставілі людзей на мяжу выжывання. Ёсць надзея, што будучы Прэзідэнт не стане супярэчыць волі народа.

**Г.Вазенчук, загадчыца магазіна №8, г.Вілейка:** Я паважаю людзей за паслядоўнасць думак і перакананняў. Таму і аддала свой голас за лідэра ПКБ Новікава. У сённяшняй сітуацыі пакуль не вызначылася. Усё будзе залежаць ад таго, як павядуць сябе кандыдаты на апошнім этапе прэзідэнцкага марафону. Ва ўсякім разе я за сумленную "гульню".

*Запісала Марыя КУЗАЎКІНА.*

## Мінімальная – 100 тысяч рублёў

Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь пастанавіў: устанавіць з 1 ліпеня 1994 г. мінімальную заработную плату ў размеры 100.000 рублёў, а тарыфную стаўку першага разраду — 110.000 рублёў.

Міністэрствам і ведамствам, выканкомам мясцовых Саветаў дэпутатаў, кіраўнікам прадпрыемстваў, устаноў і арганізацый, фінансуемых з бюджэту, даручана забяспечыць пералік заработнай платы і акладаў работнікаў у адпаведнасці з устаноўленай гэтай пастановай стаўкай 1-га разраду і каэфіцыентамі адзінай тарыфнай сеткі.

## Здзейснілася!

"Нарэшце, здзейснілася тое, чаго мы ўсе доўга чакалі". Менавіта так рэзюміраваў кіраўнік расійскага ўрада Віктар Чарнамырдзін вынікі перагавораў, якія адбыліся ў суботу ў загараднай рэзідэнцыі беларускага ўрада ў Заслаўі. У нядзелю яны завяршыліся падпісаннем двухбаковых міжурадавых дакументаў. Адзін з іх — пратакол аб рэалізацыі Дагавора аб аб'яднанні грашовых сістэм Беларусі і Расіі. У ім зафіксавана тое, што паспяхова рэалізуюцца дагаворанасці, звязаныя з увядзеннем рэжыму свабоднага гандлю, фарміраваннем адзінага парадку знешнеэканамічнай дзейнасці і нетарыфнага рэгулявання гандлю, а таксама са стварэннем умоў утрымання воінскіх фарміраванняў з саставу стратэгічных сіл, часова размешчаных на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь. Пратакол прадугледжвае, што бакі да канца ліпеня 1994-га года вызначаць парадак ажыццяўлення Цэнтральным банкам Расіі эмісіі на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь праз Нацыянальны банк Рэспублікі Беларусь. Да канца ліпеня бакі таксама выпрацуюць канкрэтны механізм абмену разліковых білетаў Нацыянальнага банка Беларусі на грашовыя знакі Цэнтральнага банка Расійскай Федэрацыі. Бакі дагаварыліся, што пры неабходнасці яны ўнясуць змяненні ў артыкулы 4, 5, 6, 7, 8 Дагавора аб аб'яднанні грашовых сістэм пры дапамозе абмену пісьмамі праз міністэрствы замежных спраў Беларусі і Расіі.

Пратакол падпісалі з беларускага боку Вячаслаў Кебіч і першы намеснік старшыні Нацыянальнага банка рэспублікі Мікалай Кузьміч, з расійскага — Віктар Чарнамырдзін і кіраўнік Расійскага Цэнтральнага банка Віктар Герашчанка.

Падпісана таксама пагадненне аб сумесных дзеяннях па мінімізацыі і пераадоленню вынікаў чарнобыльскай катастрофы. Яно, акрамя шматлікіх мерапрыемстваў спецыяльнага характару, прадугледжвае выдзяленне Расіяй 22 мільярдаў рублёў на гэтыя мэты. Яны будуць накіраваны на вытворчасць і набыццё экалагічна чыстых прадуктаў, медыкаментаў, будаўніцтва медыцынскіх аб'ектаў.

Прынята таксама сумеснае камюніке аб праведзеных перагаворах, у якім гаворыцца аб няўхільным выкананні раней заключаных дагаворанасцей аб выдзяленні крэдытаў Беларусі і прадастаўленні новых, прапрацоўцы пытанняў, звязаных з расшырэннем гаспадарчых сувязей беларускіх і расійскіх прадпрыемстваў, стварэннем міждзяржаўных кампаній, прамыслова-фінансавых груп, рэалізацыяй сумесных праектаў.

*БЕЛІНФАРМ.*

■ Рэпліка

## ЭПІДЭМІЯ ЗАБЫЦЦЯ

Разам з унукам 3 ліпеня быў на плошчы Перамогі ў Мінску. Дзевяцігадовы Сяргейка не зводзіў вачэй з ветэранаў, чые грудзі ўпрыгожвалі ордэны і медалі. Малы многім з іх дарыў блакітныя васількі, сабраныя напярэдадні ўрачыстасцей за горадам. Калі вярнуліся дамоў, Сяргейка задаў мне пытанне, на якое я, прызнаюся, адказаць не змог. А яно такое: чаму ў адрыўным календары "Родны край" на 1994 год на старонцы за 3 ліпеня нічога не сказана пра Дзень вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў?

Сапраўды, чаму ў людзей такая кароткая памяць? У першую чаргу шукаю назву выдавецтва, у "недрах" якога нарадзіўся гэты каляндар. Вось яно. Мною паважанае выдавецтва "Полымя". Чаму ж яно прамаўчала пра дату? Напэўна, рэдактары-складальнікі вінаватыя? На апошняй старонцы знаходжу іх прозвішчы: Алена Законнікава, Валянціна Балвановіч і Тамара Улевіч. Тут трэба назваць і рэдактара календара Святлану Панько. Паважаныя жанчыны, што з вамі сталася? Чым вытлумачыце сваю забыўчывасць? Бо ў леташнім календары Дзень вызвалення рэспублікі вамі ж пазначаны, хаця гэта была 49-гадавіна. А тут паўвека — і маўчок. Зрэшты, можа, забыўчывасць тут ні пры чым, а выявілася лінія паводзін — замаўчаць гістарычную праўду, не заўважаць яе. На чым грунтуецца маё перакананне? А на тым, што на старонцы календара за 3 ліпеня распавядаецца пра полацкага князя Усяслава Чарадзея, які ўмеў ператварыцца ў ваўка, у сокала ці ў тура з залатымі рагамі. Калі б ён дажыў да нашых дзён, магчыма, яшчэ б у кагосьці ператварыўся. На гэты раз ад здзіўлення, што супрацоўнікі выдавецтва "Полымя" так пагардліва аднесліся да Дня вызвалення Мінска, што яго постаццю засланілі такую важную падзею.

Тое, што перажылі беларусы ў гады Вялікай Айчыннай вайны, нельга забыць. Аб гэтым нагадваюць помнікі, вуліцы, калгасы, школы, названыя імёнамі герояў. Вайна стукаецца ў нашы сэрцы пакалечанымі лёсамі, разбуранымі гарадамі і вёскамі, спаленымі і закатаванымі ў фашысцкіх газавых камерах, слязьмі мацярок, жонак, дзяцей.

Хочацца спадзявацца, што ў календары на 1995 год з"явяцца шчырыя і праўдзівыя радкі, прысвечаныя вызваленню Мінска ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Яшчэ ёсць час, каб складальнікі календароў змаглі пазбавіцца ад эпідэміі забыцця подзвігаў сыноў сваёй роднай Бацькаўшчыны. Яшчэ больш страшна, калі гэта эпідэмія перакінецца на іншыя выданні.

*Уладзімір КОБРЫН.*

# ШЧАСЛІВАЙ ДАРОГІ, ГЕНАДЗЬ!

Генадзь Хальцоў ужо амаль тры гады працуе ў калгасе "Лебедзева" Маладзечанскага раёна вадзіцелем мікрааўтобуса. Вядома, дамагчыся на гэтай рабоце нейкіх незвычайных дасягненняў, каб ажно людзі здзівіліся, немагчыма. І тым не менш Генадзь карыстаецца ў калектыве хлебаробаў і механізатараў гаспадаркі зайздроснай павагай. Калі хочаце — аўтарытэтам.

Як гэта здарылася? А вельмі проста. Генадзь добрасумленна ставіцца да свайго абавязку, даручанай аўтамашыны, дасканала ведае яе. Ён шчыра любіць зямлю і заўжды праяўляе глыбокую павагу да нялёгкай сялянскай працы. Старшыня калгаса П.П.Бычкевіч называе яго ў ліку лепшых маладых вадзіцеляў гаспадаркі.

Гэтыя залатыя рысы характару выхаваны ў сям"і. Бацька Уладзімір Ісаевіч — патомны хлебароб, доўгі час працаваў механізатарам у калгасе імя Калініна. Ужо ў дзяцінстве Генадзь садзіўся і за руль трактара, і за руль аўтамашыны, камбайна. А шчырасць і памяркоўнасць "пераняў", пэўна, ад маці — даяркі таго ж калгаса імя Калініна.

У свой час скончыў Клімавіцкі сельскагаспадарчы тэхнікум па спецыяльнасці тэхнік-механік. Пасля службы ў арміі вярнуўся ў родную гаспадарку, пазнаёміўся з навучэнкай медвучылішча, якая ў той час працавала ў калгасе на сельгасработах. Як аказалася, яна з вёскі Лебедзева...

Бяжыць час, і хочацца пажадаць, каб і надалей дарогі гэтай гаспадаркі былі шчаслівыя для маладога вадзіцеля.

*Генадзь ДУРЭЙКА.*
*Фота Міхаіла АСАЕВІЧА.*

# ЗА ШЭСЦЬ ГАДЗІН ДА БЛАКАДЫ

50

**У жніўні 1943 года ў Капыльскім раёне прызямлілася спецгрупа "Авангард". У яе задачу ўваходзіла арганізацыя партызанскіх атрадаў, правядзенне разведкі і контрразведкі, дыверсіі на ваенных аб"ектах. У хуткім часе яна перабазіравалася ў суседні Клецкі раён. Тут, у Машукоўскім лесе, было больш зручна: акружаны з трох бакоў балотамі, паблізу чыгунка і аўтамагістраль на Баранавічы, Ляхавічы, Нясвіж, Клецк. Ніжэй апавядаецца пра адзін з эпізодаў дзейнасці спецгрупы "Авангард".**

...Бой абяцаў стаць зацяжным. Супраць "авангардаўцаў" кінулі не менш роты добра ўзброеных салдат. Калі перастрэлка раптам пацішэла, з боку немцаў нечакана паказаліся дзве постаці і, стараючыся не трапіць пад кулі, кінуліся да партызан. Камандзір "Авангарда" Сялянкін заўважыў іх і загадаў "прыкрыць" уцекачоў. Праз хвілін дзесяць яны былі ўжо ў бяспецы і, задыханыя ад хуткага бегу, расказалі, што служылі ў гаспадарчым узводзе, які знаходзіцца ў вёсцы Трацякі. А перабеглі да партызан, таму што ненавідзяць фашыстаў. Нечаканых "гасцей" абшукалі. Калі не лічыць нейкіх таблетак у пакецiках, нічога падазронага не знайшлі.

— Што гэта? — пацікавіўся Сялянкін.

— Лякарства ад галаўнога болю, — растлумачыў адзін з іх. — Нам такія выдалі.

Каб пераканаць партызан, ён спрытна высыпаў пілюлю на далонь і з хуткасцю фокусніка змахнуў яе быццам бы ў рот. Гэта, аднак, было заўважана. Словы "гасцей" патрабавалі праверкі. Са спецгрупы ў вёску Трацякі накіравалі разведчыка Мікалая Карсюка.

...Быў канец лістапада. Надвор"е бралася на зіму. Раку Лань прыхапіла лёдам, але не настолькі, каб яе можна было пераадолець пешшу. Таму М.Карсюку прыйшлося перабірацца на супрацьлеглы бераг уплаў. Данясенне, якое ён прынёс у спецгрупу, аказалася надзвычай важным. У ім паведамлялася, што ў Трацяках размясціўся нямецкі разведорган — абвер. З яго ў партызанскую зону накіравалі двух дыверсантаў. І яшчэ — назіраецца перадыслакацыя нямецкіх войск з мэтай стварыць надзейны абарончы рубеж на былой савецка-польскай граніцы. Скарыстаўшы пры гэтым старыя жалезабетонныя ўмацаванні.

Атрыманыя даныя на допыце дапоўнілі перабежчыкі. Адзін з іх — адэскі яўрэй Голубеў — працаваў перакладчыкам у абверы. Другі — лейтэнант Кваст. Аўстрыец па паходжанню. Голубеў паведаміў, што нямецкае камандаванне намеціла блакаду Машукоўскага лесу на 24 гадзіны 1 снежня 1943 года. У задачу дыверсантаў уваходзіла: устанавіць месцазнаходжанне партызанскіх атрадаў, шляхі пераходу праз балоты. А парашок — не што іншае, як моцнадзейнае атрутнае рэчыва. Ім меркавалася атруціць ваду, якой карыстаюцца партызаны. Кваст пацвердзіў даныя, якія сведчылі аб тым, што плануецца арганізацыя абароны на былой савецка-польскай граніцы. А блакада — мера забеспячэння бяспекі абарончых работ.

Гэтую інфармацыю спецгрупа "Авангард" атрымала ў 18 гадзін 30 лістапада. Да пачатку блакады Машукоўскага лесу заставалася шэсць гадзін. Паўстала задача выключнай важнасці: за астатні час папярэдзіць усе партызанскія атрады аб навісшай пагрозе і вывесці іх у бяспечнае месца. У Машукоўскім лесе на той момант знаходзіліся атрады імя Лазо, Чапаева, № 620, спецгрупа "Сокалы" і іншыя. Тут размяшчаліся сямейныя лагеры. Пад ударам аказаліся сотні людзей.

Спецгрупа "Авангард" дзейнічала аператыўна. Аб блакадзе паведамілі ў кожны атрад. Была аб"яўлена баявая трывога. Пад покрывам ночы партызаны і сямейныя лагеры пачалі выходзіць у бяспечнае месца.

К назначанаму немцамі часу Машукоўскі лес апусцеў. Блакада, на якую яны ўскладалі немалыя надзеі, правалілася.

*Мікалай ЖУЧКО.*

# АДВАЖНАЯ РАДЫСТКА

**Валгаградскаму СПТВ № 37 прысвоена імя Героя Савецкага Саюза камсамолкі Алены Канстанцінаўны Сцямпкоўскай, ураджэнкі вёскі Мазуршчына Салігорскага раёна.**

Не выпадкова следапыты збіралі звесткі пра сувязістку Сцямпкоўскую: Валгаградскае СПТВ рыхтуе спецыялістаў менавіта гэтага профілю.

Пабываўшы ў вёсцы Зімавенькі Белгародскай вобласці і пазнаёміўшыся з успамінамі калгасніка А.М.Сідарэнкі, пісьмамі былога палітрука Т.С.Чорнага, навучэнцы вырашылі змагацца за права прысваення іх вучылішчу імя А.К.Сцямпкоўскай, якая праявіла гераізм у баі 26 чэрвеня 1942 года.

...Батальён капітана Г.Саўчанкі з 216-га стралковага палка 76-й дывізіі ў дваццатых чыслах чэрвеня заняў абарону на ўскрайку вёскі Зімавенькі. Неўзабаве камбат атрымаў загад пакінуць адну роту для прыкрыцця, а з астатнімі выходзіць на злучэнне з галоўнымі сіламі палка. Выбар капітана Саўчанкі выпаў на 4-ю роту лейтэнанта Пятра Кірэева. З ёю ў траншэі засталася і радыстка, малодшы сяржант Алена Сцямпкоўская.

Васемнаццаць байцоў адбілі дзве атакі фашыстаў. Трэцюю давялося адбіваць толькі траім — лейтэнанту Кірэеву, палітруку Чорнаму і радыстцы Сцямпкоўскай. Алена страляла з аўтамата, Трафім Чорны — з ручнога кулямёта, а Кірэеў паліваў свінцом гітлераўцаў з "максіма". Савецкія воіны прымусілі ворага і трэці раз адступіць. Тады праціўнік накіраваў супраць смельчакоў танкі. Палітрук Чорны трапна кінутай гранатай спыніў адзін з іх, але і сам упаў ад выбуху варожага снарада: яго засыпала зямлёй. Алена Сцямпкоўская засталася адна — лейтэнант Кірэеў за мінуту да гэтага быў забіты фашысцкай куляй...

Адважная сувязістка пачала па чарзе весці агонь з двух кулямётаў па пяхоце ворага. Але сілы былі няроўныя. Варожая куля напаткала малодшага сяржанта Сцямпкоўскую...

Калгаснік А.М.Сідарэнка быў сведкай гэтага апошняга бою. Ён ноччу пахаваў сувязістку і лейтэнанта Кірэева ля той самай траншэі, дзе яны стрымлівалі шалёныя атакі гітлераўцаў. Тады ж ноччу палітрук Т.Чорны, апрытомнеўшы, выбраўся з-пад засыпаўшай яго зямлі. Ён застаўся жывы і пасля вайны расказаў пра апошні бой чацвёртай роты і сувязісткі Алены Сцямпкоўскай.

Пошукавая група Валгаградскага СПТВ № 37 не раз бывала ў вёсцы Зімавенькі, сабрала шмат даных аб гераіні. Цяпер навучэнцы збіраюць сродкі на ўзвядзенне помніка на яе магіле.

Следапыты ўстанавілі ў двары свайго вучылішча мемарыяльны бюст нашай адважнай зямлячкі, ля якога праходзяць урачыстыя мерапрыемствы, сустрэчы з ветэранамі Вялікай Айчыннай вайны, воінамі Савецкай Арміі.

*Мікола САЛАЎЕЎ.*

# ПРЯМОЙ НАВОДКОЙ ПО «ТИГРАМ»

**В суете житейских забот, в неразберихе и хаосе сегодняшних дней мы перестали говорить и писать о замечательных людях, о ратных и трудовых подвигах тех, кто отстоял свободу и независимость Родины, поднял ее на высоты мировых достижений.**

**Мы решили хоть чуть-чуть восполнить этот пробел и рассказать о людях завидной, героической судьбы.**

В июне 1941 года Николай Лещенко закончил среднюю школу, а уже 6 июля был призван в Харьковское авиационное училище стрелков. Фронт приближался к городу, поэтому училище было эвакуировано в г.Канск Красноярского края. Но вскоре оно было расформировано. Курсанта Лещенко направили в артиллерийское училище. Двадцатилетний офицер был отправлен на фронт и всю войну прошел в составе истребительно-противотанкового артиллерийского полка 1-й истребительно-противотанковой артиллерийской бригады резерва главного командования 1-го Белорусского фронта.

Боевой путь командир огневого взвода лейтенант Лещенко начал на Курской дуге. Потом форсировал Днепр, Западный Буг, Вислу, Одер и дошел до немецкого города Штральзунд.

Особое мужество и героизм командир взвода проявил в боях за освобождение Слуцка и Несвижа.

Жарким июльским днем наши артиллеристы отражали уже третью атаку противника, а натиск гитлеровцев не ослабевал. И вот снова на огневые позиции взвода Николая Лещенко ползли три вражеских танка и два самоходных орудия. Положение становилось критическим. Артиллеристы сумели подбить еще один танк фашистов, но и сами потеряли орудие. Вышел из строя почти весь второй расчет.

Казалось, вот-вот вражеские "тигры" и "пантеры" раздавят единственное уцелевшее орудие и прорвутся через наш передний край. Но этого не случилось. К орудию стал сам командир взвода. Его выдержка, точные команды придали оставшимся в живых бойцам силу и уверенность. Вторым снарядом Николай Лещенко поджег вырвавшийся вперед танк, потом запылали от метких выстрелов еще две вражеские бронированные машины.

В этом же районе, спустя два дня, мужественный командир вступил в единоборство с семью танками противника. Вот отрывок из наградного листа на лейтенанта Николая Павловича Лещенко: "3-го июля 1944 года, совершая марш, автомашина с орудием, которую вел лейтенант Лещенко, попала в засаду вражеских танков. Офицер с ходу развернул орудие, откатил его в рожь, вступил в неравный бой с немецкими танками и десантом, стремившимися раздавить орудие. Для большей уверенности лейтенант Лещенко лично стал за наводчика и первым выстрелом зажег немецкий танк в 50 метрах от орудия. Двумя последующими выстрелами он зажег второй танк. Остальные пять танков отошли за гребень.

Пехота врага трижды атаковала геройский расчет и каждый раз встречалась огнем истребителей, откатывалась назад.

Товарищ Лещенко в течение суток с одним орудием удерживал дорогу и не дал возможности немецким танкам и пехоте прорваться на фланг наших войск, и, когда подошло подкрепление, лейтенант Лещенко на трофейных лошадях привел орудие и расчет в часть. В этих боях тов.Лещенко уничтожил до роты немцев.

За проявленное мужество и героизм лейтенант Лещенко достоин присвоения звания "Герой Советского Союза".

Это высокое звание ему было присвоено в бою на подступах к Несвижу. Боевых наград удостоились и остальные отважные артиллеристы.

До последнего дня войны Николай Павлович сражался в родном полку. В феврале 1945 года был тяжело ранен. После войны долгие годы полковник Н.П.Лещенко служил в рядах Вооруженных Сил СССР.

29 апреля 1975 года решением Несвижского горисполкома ему присвоено звание "Почетный гражданин Несвижа".

*Б.ДОЛГОТОВИЧ,*
*подполковник запаса.*

**На снимке:** Н.П.Лещенко.

## ВЕСТКІ СА СМАЛЯВІЦКАГА РАЁНА

### ГАСЦЯМ ЗАЎСЕДЫ РАДЫ

У Смалявіцкім раёне пакуль няма ні каледжаў, ні гімназій, ні ліцэяў. Што гэта за ўстановы? Як там арганізаваны навучальна-выхаваўчы працэс? Над гэтымі і іншымі пытаннямі задумаліся выкладчыкі і навучэнцы Плiскай дзіцячай музычнай школы. Было вырашана запрасіць у госці прадстаўнікоў фартэпіяннага аддзялення Беларускага ліцэя мастацтваў. Такая сустрэча адбылася ў Смалявічах, бо ў Плісе пачаўся рамонт будынка. Юныя слухачы прыхільна сустрэлі выступленні гасцей, шчыра дзякавалі ім за асалоду ад судакранання з музыкай. Надоўга запомніцца плісянцам ігра іх былой выхаванкі Аксаны Лабкоўскай, якая цяпер вучыцца ў Беларускім ліцэі мастацтваў.

Такія вечары музыкі вырашана практыкаваць часцей.

### МАСТАКОЎ РЫХТУЮЦЬ У...РЭДАКЦЫІ

У смалявіцкай раённай газеце "Ленінскі заклік" склалася добрая традыцыя — напярэдадні Міжнароднага дня абароны дзяцей праводзіць конкурс дзіцячага малюнка. Шмат работ паступіла і сёлета. Вялікую актыўнасць праявілі Пекалінская сярэдняя школа і СШ № 1 г.Смалявічы. Дзеці намалявалі герояў казак, мультфільмаў, далі волю і сваёй фантазіі.

Першае прызавое месца, як паведамляе раёнка, прысуджана пяцікласніцы СШ № 1 з райцэнтра Каці Мурашка, якая прадставіла на конкурс партрэт паэта М.Лермантава і некалькі малюнкаў з мультфільмаў. Другое месца заваявала вучаніца Жажэлкаўскай СШ Каця Казлоўская. Яе партрэт дзядулі і калекцыя адзення — адны з лепшых на гэтай выставе. Пяцікласніцы Насці Даўгалёнак /СШ № 1/ прысуджаны прыз за работы акварэльнымі фарбамі.

Узнагароды юным мастакам уручыў жыхар г.Смалявічы, супрацоўнік камерцыйнай фірмы "Сурэкс" Аляксандр Зыль. Урачыстасць праходзіла ў памяшканні раённай газеты.

### УРА, ЦЫРК ПРЫЕХАЎ!

Яўген Едзігараў дзевяць гадоў кіраваў цыркавым калектывам у Палацы культуры жодзінскіх аўтамабілебудаўнікоў. Яго артысты часта выступалі на прадпрыемствах горада, у навучальных установах. Цяпер кіраўнік цырка запрошаны на працу ў Беларускую дзяржаўную філармонію. Але не забывае ён і тых, хто раней захапляўся яго талентам. Вось і нядаўна Едзігараў разам са сваім сябрам Юрыем Сафронавым выступаў на сцэне Смалявіцкага гарадского Дома культуры, куды былі запрошаны школьнікі. Амаль гадзіну працягвалася выступленне. У праграме — жангліраванне, акрабатыка, эквілібрыстыка, фокусы. Артысты "глыталі" полымя, качаліся па бітым шкле. Адным словам, кожны нумар выклікаў захапленне ў юных гледачоў.

— Дамовіліся, што з такой праграмай цыркавая брыгада выступіць у сельскіх установах культуры, на школьных аздараўленчых пляцоўках раёна, — зазначыў дырэктар ГДК Іван Гоцман.

■ Вяртаючыся да надрукаванага

# РУКУ ДАПАМОГІ НЕ ПАДАЛІ

**У "Мінскай праўдзе" /№ 56 за 31 мая г.г./ была змешчана публікацыя "Як ветурач стаў "прагульшчыкам". У ёй расказвалася пра канфліктную сітуацыю , што ўзнікла паміж кіраўніцтвам калгаса "Радзіма Якуба Коласа" /Стаўбцоўскі раён/ і былым членам гаспадаркі Вячаславам Лемешам.**

Пасля смерці жонкі Вячаслаў застаецца з дзвюма непаўналетнімі дочкамі. Да таго ж ён падпаў пад скарачэнне і некалькі месяцаў жыў толькі на сацыяльную дапамогу, якую атрымліваў на дзяцей. Уладкавацца на іншае месца не меў магчымасці з-за таго, што аддзел кадраў калгаса доўгі час не выдаваў Лемешу працоўную кніжку. Канечне, не кніжка была патрэбна, а дом, які некалі прадаставілі спецыялістам пасля пераезду іх у гаспадарку з Краснадарскага краю. "Высяляйся, тады і кніжку вернем",— гаварылі Лемешу. Нікога не хвалявала, дзе будзе жыць асірацелая сям"я. Аднак такім метадам не ўдалося выжыць Вячаслава з уласнай кватэры. Тады знайшлі іншую падставу для высялення. Сход упаўнаважаных выносіць завочна Лемешу спагнанні за парушэнне працоўнай дысцыпліны, вырашае выключыць яго з членаў калгаса і "прапаноўвае пакінуць кватэру".

Без судовага ўмяшання было ўжо не абысціся. Тры разы разглядаўся іск В.Лемеша ў раённым судзе. На апошнім пасяджэнні ён быў задаволены, аднак калгас абскардзіў гэтае рашэнне ў вышэйстаячую інстанцыю.

У касацыйнай скарзе, накіраванай у абласны суд, старшыня калгаса Канстанцін Каробка настойваў на тым, што "рашэнне райсуда з"яўляецца няправільным як вынесенае з парушэннем патрабаванняў матэрыяльнага права і падлягае адмене. Акрамя таго, згодна з п.6 арт.2 Кодэкса законаў аб працы Рэспублікі Беларусь, разгляд спрэчкі па пытанню выключэння з членаў калгаса рэгулюецца статутам калгаса. Таму суддзя правільна зазначыў, што суд не мае паўнамоцтваў для адмены рашэння сходу і не можа абавязаць праўленне калгаса прыняць рашэнне, якое было б пажадана істцу".

За гэтую неасцярожную фразу суддзі, відаць, і ўхапіўся старшыня, калі складаў скаргу. Разлічваў на гэтыя словы. Але на пасяджэнне абласнога суда, якое адбылося 9 чэрвеня г.г., ніхто з боку калгаснага кіраўніцтва не з"явіўся. Прысутнічалі толькі Вячаслаў Лемеш, прадстаўнік савета аб"яднання галіновых прафсаюзаў вобласці Іван Грыгаркевіч /ён абараняў інтарэсы істца/ і карэспандэнт "МП". Новага ў гэтай грамадзянскай справе мы не пачулі. Абласны суд адхіліў касацыйную скаргу калгаса і пакінуў у сіле рашэнне раённага суда.

— Няма гарантыі, што калгас на гэтым супакоіцца і не абскардзіць рашэнне абласнога суда ў Вярхоўны, — гаворыць Вячаслаў Лемеш.— Спакойна жыць не даюць. Нядаўна прыслалі рахунак на мільён 240 тысяч рублёў. За якія паслугі — не ведаю. Я спраўна плачу за кватэру, ніякай запазычанасці не маецца. Ды і адкуль у мяне такія грошы? Уладкаваўся на пасаду загадчыка гаспадаркі мясцовай школы, атрымліваю каля 200 тысяч у месяц. Плюс невялікая /152 тысячы рублёў/ пенсія на дзяцей. Старэйшая дачка вучыцца ў Мінскім медвучылішчы, малодшая закончыла шосты клас. Хто ім дапаможа, як не родны бацька?..

Калгас не падаў руку дапамогі чалавеку, якога напаткала гора. Мала таго, настойліва спрабуе пазбавіць сям"ю даху над галавой.

*Наталля ШМІДТ.*

# СЦЕЖКАМІ НАРОДНАГА ПЕСНЯРА

*Праз некалькі месяцаў калектыў Літаратурнага музея Якуба Коласа ў Мінску адзначыць сваё 35-годдзе. Разгарнулася падрыхтоўка да гэтай урачыстай даты. Работнікі музея афармілі выставу кніг, прысвечаную творчасці народнага песняра. На працягу месяца яна экспанавалася ў Пухавіцкім раёне. Пачынаючы з 1933 года і да канца сваіх дзён пісьменнік амаль кожнае лета адпачываў з сям"ёй, працаваў у гэтым маляўнічым куточку. Якуб Колас, як адзначае Мікола Жыгоцкі ў сваёй кнізе «Сцежкамі паэта», ведаў амаль кожнага жыхара вёсак Балачанка, Беразянка, Падбярэжжа і Загібелька. Апошняя нават трапіла ў адзін з вершаў.*

***Калі агледзіш хвайнякі***
***І гэты кут пазнаеш бліжэй,***
***Збіраючы баравікі, —***
***То вывад я раблю такі:***
***Мне Загібелька лепш Парыжа.***

*Не дзеля рыфмы ўзята гэтае параўнанне. Якуб Колас у Парыжы быў удзельнікам Міжнароднага кангрэса пісьменнікаў у абарону культуры. Пазнаёміўшыся з французскай сталіцай, жыццём, паэт і напісаў радкі, якія прыведзены вышэй.*

*На Пухаўшчыне народны пясняр працаваў над п"есамі «Вайна вайне», «У пушчах Палесся», вершамі, перакладамі твораў Тараса Шаўчэнкі. Дарэчы, тады ён пераклаў звыш чатырох тысяч радкоў украінскага песняра.*

*Аб гэтым і многім іншым нядаўна расказвалі пухаўчанам супрацоўнікі музея Мікола Жыгоцкі, пісьменнік Іван Курбека, Даніла Канстанцінавіч Міцкевіч — сын Якуба Коласа, якія сустрэліся з творчай інтэлігенцыяй раёна.*

*— Такія сустрэчы правядзём і ў іншых мясцінах рэспублікі, якія звязаны з жыццём і дзейнасцю народнага паэта, — зазначыла дырэктар Літаратурнага музея Зінаіда Камароўская.*

*Уладзімір АНТОНАЎ.*

■ Повязь

# ЧАСЦЕЙ ГЛЯДЗІЦЕ З КУРГАНОЎ ВЯЧЫСТЫХ

**— Ой і здатны быў да сваёй справы кравец Сцяпан. Як пашые спадніцу ці порткі — сядзяць што ўлітыя. Колькі ў яго хаце людзей перабыло... Ды і жонка Вулляна яму да пары: зграбная, прыветная, кожнага сесці запросіць, кожнага квасам напоіць... — ці то з далёкага дзяцінства, ці то з паўзабытага юнацтва чую гэтыя словы. Голас ціхі, старэчы, даўно адышоўшы ў нябыт. Так расказвалі людзі легенду пра пачатак Віліі-ракі.**

Неўзлюбіла нечысць краўца-ўмельца. Ды і як было яго любіць, калі не бяду і сум, а светлую радасць нёс ён людзям. І стаў Сцяпан каменем, шэрым, агромністым. Але ішлі ды ішлі да яго людзі. І кідалі на камень бярэма кужэльнага палатна. А раніцой забіралі ўжо гатовыя рэчы. Але і гэтага дару пазбавіў Сцяпана д'ябал. "Шый ні тое, ні сёе — сам не ведаю што", — сказаў аднойчы яго пасланец. З тае пары навечна акамянеў Сцяпан. Прыходзячы па гатовыя рэчы, людзі знаходзілі ля каменя кавалкі матэрыі... А Вулляна, блакітнавокая ды светлакосая, няўцешнай слязінаю пралілася ля гэтага каменя. Так пачалася Вілія-рака. Вулляна, Вілляна, Вілія...

Ледзь ці не ў кожнага горада, ракі, мястэчка — свая легенда. Але чаму ж столькі трагічнага ў іх? Пазнаёмцеся са старажытным эпасам любога народа, і вы знойдзеце боль, адчай, цярпенне. Ці не таму, што на пакутах пабудавана жыццё? І калі ўзяць гісторыю ўвогуле, яна перапоўнена трагізмам. Асабліва пранікаешся гэтым пачуццём, знаёмячыся з музейнай экспазіцыяй.

Вілейскаму гісторыка-краязнаўчаму музею — 20 год.

**ЧАС.** Звычайна экскурсія пачынаецца з гэтага раздзела. На зашклёным стэндзе — некалькі цыферблатаў. Стрэлкі аднаго з іх спыніліся а чацвёртай гадзіне раніцы. Менавіта тады, як пачалася вайна. Гэта з-за яе не здзейсніліся мільёны жыццяў. Вуголлем на папялішчы, горкім дымам крэматорыяў сталі людская радасць і боль, смех дзіцяці і смутак старога. Для іх час спыніўся, для нас — ідзе наперад. Стрэлкі другога цыферблата няўмольна адлічваюць імгненні вечнасці...

**"ВЫТОКІ"** — назва другога раздзела. Тут звесткі з той далёкай мінуўшчыны, калі чалавек толькі пачынаў адчуваць сябе сацыяльнай істотай. Старажытнае паселішча ў Млышках /ёсць такая вёска на Вілейшчыне/. Раскопкі дазволілі аднавіць яго абрысы, знайсці прылады працы і побыту, якімі карысталіся нашы продкі. Кожны прадмет — завершаны па форме, нясе ў сабе не толькі прыкладную, але і духоўную вартасць.

Чалавек на сваёй Бацькаўшчыне — такі асноўны сэнс раздзела **"ЗЯМЛЯ"**. Вядомы беларускі вучоны, падарожнік, этнограф Тышкевіч на пачатку стагоддзя праплыў па мнагаводнай тады Віліі ад вытоку да вусця. Вынікам гэтага падарожжа стала кніга "Вілія і яе берагі". Вілейку ён назваў горадам з выглядам вёскі. Гады ненамнога змянілі аблічча гэтага правінцыяльнага гарадка. І нават цагляныя шматпавярхоўкі, неабходная даніна часу, адчуваюць сябе няўтульна сярод зялёнай замеці ціхіх вулачак, дзе ружовы водар струменіць яблыневы цвет.

"Усім сэрцам люблю зямлю, што мне жыццё дала, што на старасці хлебам корміць, што мне ў месцы не адмовіць на апошні адпачынак". Тышкевіч.

Вось так з натуральнай, часта неўсвядомленай любоўю да свайго краю жылі нашы продкі. Так жывём мы. Менталітэт беларускай нацыі — у яе цярплівасці. Дык чаму ж столькі войнаў прагрымела над нашым краем?

Экспазіцыя не дае прамога адказу. Яна вымушае задумацца і рабіць свае вывады. З часоў Полацкага княства няўмольны лёс не двойчы і не тройчы перакроіў карту Беларусі. Замежным наведвальнікам цяжка растлумачыць наяўнасць у беларускім дзяржаўным гербе двухгаловага расійскага арла. Паўстанне Каліноўскага, патопленае ў крыві, — гэта ўсплёск нацыянальнай самастойнасці народа ці бунт герояў-адзіночак? І сёння ў Вілейцы дзейнічае царква, пабудаваная з нагоды падаўлення паўстання, у гонар тых, хто загінуў ад рук паўстанцаў, выконваючы волю царскага рэжыму.

**ЗЯМЛЯ І АЙЧЫНА** — паняцці непадзельныя. І калі ўзнімаецца на іх абарону народ, то ўжо не па нечай вышэйшай волі.

І той, хто наведае сёння экспазіцыйную залу Вілейскага краязнаўчага музея, безумоўна, спыніцца ля выставачнага пояса, прысвечанага 50-годдзю Перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне. Тут за гісторыю гавораць дакументы, фотаздымкі, пісьмы... Тут аддадзена даніна павагі ўсім, хто праліваў кроў на вілейскай зямлі, хто застаўся тут навечна і прарос у чалавечых душах светлай памяццю, усім, кім ахвяравала Вілейшчына, і да гэтага часу не высушыўшы слёз і не перажыўшы боль страт.

Пастойце моўчкі ля гэтага сялянскага стала, засланага льняным абрусам, паглядзіце на салдацкія трохкутнічкі. У цьмяным полымі свечкі мо не ўбачыце вы твары тых, хто пад гул кананады і ў хвіліны шпітальнай цішыні вывodзіў гэтыя няроўныя радкі, прасякнутыя такой любоўю, такой пяшчотай да родных і блізкіх, такой шчымлівай прагай мірнай цішыні. Яны пісалі: "Жыцця не пашкадую". А самі так хацелі жыць.

"Высокае званне камуніста пастараюся апраўдаць у баях з гітлераўскімі паганцамі, якія працягваюць таптаць маю родную беларускую зямлю", — з заявы радавога Пракаповіча ў пярвічную партарганізацыю вайсковай часці аб прыёме кандыдатам у члены ВКП/б/. Можа, і знойдзецца сёння хтосьці /няма роду без выроду/, хто дазволіць сабе засумнявацца ці, яшчэ страшней, — пасмяяцца над шчырасцю гэтых радкоў.

Была партыя і былі людзі ў партыі. Былі карыслівыя мэты адных і гарачая вера другіх. І каб не блытаць паняцці, не асуджаць герояў і патрыётаў, мы сёння як ніколі павінны ведаць сваю гісторыю. Тут кожны радок крывавіць, тут памяць — суцэльная рана. Наш зямляк Уладзімір Лаўрыновіч, Герой Савецкага Саюза, загінуў у Прусіі, Канстанцін Зубовіч, таксама Герой, — у Венгрыі. Няма ў жывых Андрэева, Маліноўскага, Жаўтко... Каго напаткала фашысцкая куля, каго даканалі франтавыя раны. Сорак тры вёскі Вілейшчыны /удумайцеся: сорак тры!/ спалены разам з жыхарамі. На месцы дзвюх — Любчы і Борак і па сённяшні дзень — толькі каменныя абеліскі...

Сёння Хатынь — немы крык заживa спаленых — спакваля зарастае травой. Чаго ж мы баімся? Болю, каб незнарок не пастукаўся ў нашы сэрцы? Але ж як жыць без гэтага болю? Кожны чацвёрты — гэта памяць кожнай сям"і, кожнага дому. Калі мы сёння атрымліваем кроплі дабрачыннай дапамогі з Германіі, няўжо сапраўды даруем? Няўжо ёсць на свеце чалавек, які даруе забойства бліжняга? Можна ўзняцца вышэй пачуцця помсты, можна прыцярпецца да болю... Але дараваць забойцу — значыць, правакаваць яго на новыя злачынствы.

**МУЗЕЙ** — жывы падручнік гісторыі. Вось чаму самыя складаныя ўрокі мясцовыя настаўнікі праводзяць тут. Сюды прыходзяць шматлікія дэлегацыі. Па-свойму прываблівае музейная цішыня ветэранаў Вялікай Айчыннай вайны. Заходзяць сюды і пакідаюць запісы ў кнізе наведвальнікаў жонка і родныя палкоўніка Міхаіла Львіцына, загінуўшага пры вызваленні Вілейкі.

Ёсць рашэнне сесіі гарадскога Савета аб выдзяленні музею дадатковых плошчаў. Тады з запаснікаў паўстануць перад наведвальнікамі шматлікія цікавыя экспанаты. А яшчэ, марыць дырэктар Яўген Ігнатовіч, можна будзе праводзіць гасцёўні, сустрэчы творчай інтэлігенцыі горада, знаёмствы з цікавымі людзьмі.

Усе мерапрыемствы музея фінансуюцца з гарадскога бюджэту. Але яго сціплых сродкаў не хапіла б, каб не спонсары, людзі, якія і ў наш рацыянальны час вераць у невычэрпнасць духоўных крыніц. Яўген Ігнатовіч называе Анатоля Сяргея, дырэктара хлебазавода, Часлава Куляша, дырэктара дрэваапрацоўчага камбіната, начальніка МПМК-185 Мікалая Каратыша, Віктара Анікеенку, дырэктара камбікормавага завода, Генадзя Міргалоўскага, дырэктара саўгаса "Беларускі".

**ПАМЯЦЬ...** Адзіная ніць, што вядзе нас да нашых вытокаў. А без іх мялее рака, траціць сілу, сухім пылам забыцця пакрываюцца берагі...

Часцей глядзіце з курганоў...

*Марыя КУЗАЎКІНА.*

# ПРАФСАЮЗЫ: папрокі не па адрасу

*Сацыяльна-палітычная і эканамічная сітуацыя працягвае ўскладняцца. Падаюць аб"ёмы вытворчасці, высокія тэмпы набірае інфляцыя, павялічваецца беспрацоўе і колькасць тых, хто жыве за мяжой беднасці. Прафсаюзы патрабуюць павышэння мінімальнай зарплаты да 120 тысяч рублёў. А іх абвінавачваюць у тым, што яны пачынаюць лямантаваць без уліку рэальнай абстаноўкі ў эканоміцы і тым самым садзейнічаюць новаму вітку інфляцыі. Як жа яны павінны дзейнічаць у такіх умовах? Аб гэтым ішла размова на пленуме савета аб"яднання галіновых прафсаюзаў вобласці. І даклад, з якім выступіў старшыня савета аб"яднання М.Э.Хаванскі, і выступленні ўдзельнікаў пленума былі выкарыстаны, у спалучэнні з іншымі крыніцамі інфармацыі, пры падрыхтоўцы матэрыялаў, якія друкуюцца ніжэй.*

■ Тактыка дзеянняў

## ЯК АДЗІНЫ АРГАНІЗМ

Сярод грамадскіх аб"яднанняў прафсаюзы займаюць асаблівае месца. У іх сапраўды масавы характар. Па стану на першае студзеня 1994 года членамі прафсаюзаў з"яўляліся 97,4 працэнта ўсіх працуючых у вобласці. Яны аб"яднаны ў 7.872 пярвічныя арганізацыі практычна на ўсіх прадпрыемствах, у арганізацыях і ўстановах.

Зараз робяцца спробы раскалоць прафсаюзы, падарваць іх адзінства. З гэтай мэтай ствараюцца свабодныя, альтэрнатыўныя і іншыя прафсаюзы.

Летась з прафсаюзаў выйшлі звыш дзесяці тысяч чалавек. У такой абстаноўцы як ніколі патрэбны згуртаванасць і адзінства, незалежна ад рэгіянальнай і галіновай прыналежнасці. І ў рабоце савета аб"яднання з галіновымі абласнымі камітэтамі склалася пэўная сістэма каардынацыі сумесных дзеянняў пры вырашэнні тых ці іншых задач. У прыватнасці, па заключэнню пагадненняў з абласным і Мінскім гарадскім выканкомамі па сацыяльнай абароне працоўных, арганізацыі адпачынку дзяцей і дарослых, аздараўленню пацярпеўшых ад чарнобыльскай катастрофы, развіццю фізкультуры і спорту, аказанню юрыдычнай дапамогі насельніцтву і г.д.

Карацей кажучы, павінны дзейнічаць як адзіны арганізм. Тым больш гэта важна ва ўмовах рынкавай стыхіі, у якой мы апынуліся. Востра становіцца сітуацыя з занятасцю насельніцтва, асабліва моладзі, працаўладкаваннем выпускнікоў сярэдніх школ, тэхнікумаў, інстытутаў. На першае чэрвеня ў Мінску і вобласці зарэгістравана 16.807 беспрацоўных, з іх атрымліваюць дапамогу 15.194 чалавекі. Затраты на іх сацыяльную падтрымку складаюць 4,3 мільярда рублёў. На адно свабоднае месца сёння прэтэндуюць 10 беспрацоўных у вобласці і 2 — у горадзе Мінску.

Паводле ацэнак спецыялістаў, узровень беспрацоўя з улікам «скрытага» ўжо дасягнуў 10 працэнтаў /афіцыйны ўзровень па вобласці — 1,9 працэнта, Мінску — 1,2/.

Да таго ж, многія наймальнікі груба парушаюць працоўнае заканадаўства. Дастаткова сказаць, што народнымі судамі вобласці летась было задаволена каля 60 працэнтаў іскаў аб аднаўленні на рабоце. Прычым у суды звяртаюцца не ўсе звольненыя. У такой абстаноўцы прававая служба савета аб"яднання галіновых прафсаюзаў імкнецца аказаць практычную дапамогу кожнаму, хто звярнуўся з пісьмом ці просьбай. Даюцца бясплатныя кансультацыі па пытаннях працоўнага заканадаўства. Сёлета іх ужо атрымалі звыш 650 чалавек. Афармляюцца дакументы для падачы іскаў у суды, юрысты савета аб"яднання выступаюць адвакатамі пацярпеўшых. У інспекцыі працы прафсаюзаў цесны кантакт з дзяржаўнай інспекцыяй, пракуратурай. Зараз праводзіцца сумесная праверка выканання законаў на прадпрыемствах і ў арганізацыях Дзяржынска.

Адным словам, пытанні захавання працоўнага заканадаўства прафсаюзныя камітэты імкнуцца трымаць пад пастаянным кантролем.

■ Зарплата і цэны

## КАЗКА ПРА БЕЛАГА БЫЧКА

Менавіта так ацанілі людзі нядаўняе зніжэнне цэн на некаторыя харчовыя тавары, якое, маўляў, прынясе ім палёгку. "Падобнае сцвярджэнне разлічана на разумова адсталых", — вось якую характарыстыку мне давялося пачуць. Сапраўды, каштаваў батон 1.200 рублёў, а зараз 1.040. Ці за кілаграм мяса трэба заплаціць на некалькі соцень рублёў менш. Што, ад гэтага чалавеку стане лягчэй і яго жыццёвы ўзровень павысіцца? Дзе там! Ён увесь час апускаецца.

Яшчэ зусім нядаўна размер мінімальнай зарплаты складаў 70 працэнтаў мінімальнага спажывецкага бюджэту. Астатнія працэнты кампенсаваліся праз грамадскія фонды.

Хоць і не шыкоўна жылі, аднак кожны працуючы мог забяспечыць сябе ў мінімальных патрэбах харчаваннем, адзеннем, абуткам. А пры эканомным бюджэце — і таварамі працяглага карыстання. Паспрабуйце зрабіць гэта пры цяперашняй зарплаце! Хаця яе абсалютныя сумы даволі ўнушальныя, аднак купіць за іх што-небудзь "прыстойнае" немагчыма. Сёння на сярэднюю зарплату можна пракарміць толькі самога сябе, і практычна нічога не застаецца на ўтрыманне членаў сям"і. Яе мінімальны размер удвая меншы за афіцыйна ўстаноўленую дзяржавай мяжу малазабяспечанасці. Яна па сутнасці ператварылася ў падачку для жабракоў і абяздоленых.

Паглядзіце, як зніжаюцца суадносіны паміж мінімальнай зарплатай і мінімальным спажывецкім бюджэтам. У недалёкім мінулым яны раўняліся 70 працэнтам, у 1992-м — 47,2, летась — 27,4 і сёлета ў маі — усяго толькі 16,8.

Жыццё ж з кожным днём становіцца ўсё больш дарагое. Індэкс цэн на прамысловыя тавары з пачатку года вырас у 2.784 разы. Павялічваецца і кошт прадуктаў харчавання, што раз-пораз мы адчуваем на ўласнай кішэні. А наша зарплата ўсё больш адстае ад росту цэн. Падае пакупная здольнасць насельніцтва. Ці не таму даходная частка абласнога бюджэту выканана за пяць месяцаў на 69 працэнтаў? Няма фіксаваных цэн на тавары, акрамя тых, якія атрымліваюць датацыю. Іх жа нямнога. Ужо выдадзена /за пяць месяцаў/ з бюджэту вобласці 74 мільярды рублёў хлебапёкам, 12 — аўтатранспартнікам, 13 — жыллёва-камунальнай гаспадарцы, 14,5 — на паліва. Як трапна заўважыў адзін абласны кіраўнік, усё праядаем з бюджэту, а вось папаўняць яго няма адкуль

Развал народнай гаспадаркі прывёў да глыбокага крызісу. Становішча ў эканоміцы не паляпшаецца. Назіраецца далейшы спад аб'ёмаў прамысловасці, будаўніцтва, транспартных і пасажырскіх перавозак, пагаршаюцца справы ў сельскай гаспадарцы. Асабліва вялікае падзенне дапушчана на прадпрыемствах машына - і станкабудавання, лёгкай і тэкстыльнай прамысловасці, зніжаецца вытворчасць прадуктаў харчавання. Адсюль і прастоі, якія мелі месца на кожным другім прадпрыемстве вобласці. Асабліва вялікія — у машынабудаванні, металаапрацоўцы і радыёэлектроніцы, дзе яны склалі 40 працэнтаў рабочага часу. Людзей вымушаны адпраўляць у адпачынак без аплаты, пераходзіць на скарочаны рабочы тыдзень.

Праца становіцца самым танным таварам. Дзяржаўная стаўка высокакваліфікаванага рабочага 8-га разраду складае каля 90 працэнтаў мінімальнага спажывецкага бюджэту. Ці ж могуць тут маўчаць прафсаюзы?

— А нас абвінавачваюць у тым, што прафсаюзныя кіраўнікі зноў лямантуюць аб павышэнні мінімальнай зарплаты ў два разы, а гэта імгненна выкліча новы скачок цэн, — пачуў у адказ. — Корань ледзь ці не ўсіх нашых бед звязваюць з яе ростам. На розных узроўнях сцвярджаюць, што менавіта яна з"яўляецца галоўнай прычынай інфляцыі і збяднення большай часткі насельніцтва. На самай справе ўсё інакш. У сабекошце рэалізаванай прадукцыі доля заработнай платы ўвесь час змяншаецца і складае сёння каля 7 працэнтаў, а на асобных прадпрыемствах — менш як 2 — 3. Дык як жа яна можа ўплываць на непамерна вялікі рост цэн? Сапраўдная прычына заключаецца ў неэфектыўнасці функцыянавання кіруючай сістэмы, адсутнасці праграм стабілізацыі эканомікі. Віна ж за гэта кладзецца на тых, хто стаіць ля руля дзяржавы.

Так што няма чаго нам расказваць казкі пра белага бычка. Супакойваць тым, што, нягледзячы на разбуральныя тэндэнцыі ў постперабудовачны перыяд, мы выжылі і выйшлі з іх з лепшымі паказчыкамі, чым іншыя дзяржавы СНД. Тым самым унушаюць нам: і калі мы жывём дрэнна, радуйцеся, што хтосьці жыве яшчэ горш за нас. Такая вось філасофія і прывяла да таго, што сярэдняя зарплата беларусаў у 8-10 разоў меншая, чым у Расіі, Латвіі, Літве і Эстоніі / у пачатку 1991 года розніца складала 15-20 працэнтаў/ і ў 20 разоў — чым у Польшчы.

Так і ператвараецца Беларусь, некалі адна з самых багатых, у самую адсталую рэспубліку былога Саюза. Замест дзейсных, эфектыўных мер — латанне дзірак, імітацыя ажыццяўлення рэформ у выглядзе складання праграм выхаду з крызісу і далейшага сацыяльна-эканамічнага развіцця народнай гаспадаркі. Цешым людзей надзеяй, што ўсе нашы праблемы дапаможа нам вырашыць Расія. Самі ж нічога рэальнага не робім, знаходзімся ў стане пастаяннага чакання, нясмелай надзеі — вось неўзабаве прыйдзе разумны і добры "дзядзька" і выведзе нас з тупіка. Спрацоўвае ж дзесяцігоддзямі выпрацаваны стэрэатып. І не хочам зразумець, што заключэнне дагавора прынясе нам не толькі комплекс расійскіх даброт у выглядзе абяцанняў сыравіны, матэрыялаў, рынкаў збыту, але і ўвесь набор расійскіх сацыяльна-эканамічных праблем. Аднак, падпісаўшы міждзяржаўны дагавор, лягчэй размыць адказнасць за стан спраў у эканоміцы, схаваць сваю няздольнасць карэнным чынам змяніць сітуацыю да лепшага, чым самім навесці ў сваім доме ўзорны парадак. Ці не хопіць ужо выступаць нам казанскай сіратой з працягнутай рукою: падайце, калі ласка, на пражыванне? Дзе ідэі, якія аб"ядналі б людзей, дзе дакладна вызначаныя мэты і маршрут іх дасягнення?

Пабольш канкрэтных праграм і рэальных спраў замест выпрошвання для сябе якіхсьці даброт пад запэўніванне ў любові!

■ Адпачынак

## І НА ФОНД НЯМА НАДЗЕІ

**Сёння галаўны боль для кіраўнікоў абкомаў галіновых прафсаюзаў, старшынь прафкомаў — аздараўленне дарослых і дзяцей. Раней на гэтыя мэты выкарыстоўваліся сродкі фонду сацыяльнага страхавання. Зараз органы ўлады адабралі яго ў прафсаюзаў і ўзялі ў свае рукі. Маўляў, пад кантролем дзяржавы гэта будзе лепш. Аднак справы рэзка пагоршыліся. У першым паўгоддзі за кошт сродкаў сацстраху на 1.000 працуючых набыта 10 пуцёвак на лячэнне і 4 — на адпачынак. А летась за аналагічны перыяд — адпаведна 17 і 8. Адчуваеце розніцу?**

Не менш складаная сітуацыя і з чарнобыльцамі. У цяперашні час на забруджанай тэрыторыі пражывае звыш 40 тысяч чалавек, у тым ліку 9.320 дзяцей. Мы прынялі 35 тысяч перасяленцаў, ёсць 15.058 ліквідатараў. Згодна з законам, амаль 50 тысяч маюць права на аздараўленне. Яно ж пад пагрозай. Калі фінансаванне будзе ажыццяўляцца ў такіх аб"ёмах, як цяпер, то 85 працэнтаў насельніцтва страцяць магчымасць паправіць сваё здароўе. Крыўдна за дзяцей, якія аказваюцца ля разбітага карыта.

З цяжкасцю былі «выбіты» ў дзяржаўных структурах, якім падпарадкоўваецца фонд сацыяльнага страхавання, грошы для падрыхтоўкі аздараўленчых лагераў да прыёму дзяцей і на правядзенне першай змены. Атрыманы крэдыт дазволіў адкрыць усе стацыянарныя лагеры, а таксама часткова прафінансаваць іх. Вялікую дапамогу аказалі тут абласны і Мінскі гарадскі выканкомы — яны знайшлі для гэтых мэт па 2 мільярды рублёў.

А як быць з другой і трэцяй зменамі? Пытанне адкрытае. Гавораць, што ўрад даў каманду выдзеліць неабходныя сродкі. Толькі не атрымана пакуль ні рубля. У апраўданне — спасылка на дэфіцыт бюджэту. Але ж заявіў у інтэрв'ю «Астанкіна» Вячаслаў Кебіч: «Ні адзін завод, ні адна фабрыка не спынілі сваю вытворчасць, ні адзін кавалачак зямлі не застаўся неапрацаваным...». Працуючыя атрымліваюць зарплату, і гэтак жа рэгулярна з яе робяцца немалыя адлічэнні ў фонд сацстраху. «А яго сродкі выкарыстоўваюцца не па прызначэнню, ідуць на латанне дзірак дзяржаўнага бюджэту, — такое меркаванне давялося мне чуць ад многіх прафсаюзных работнікаў. — Людзі ж па-ранейшаму патрабуюць ад нас дапамогі ў аздараўленні. І мы, як той стрэлачнік, аказваемся вінаватымі».

Выказвалася думка, што за дзейнасцю фонду неабходна наладзіць грамадскі кантроль. І абавязкова — абнародаваць праз сродкі масавай інфармацыі размер атрыманых сум, і расказаць, на якія мэты яны выдаткоўваюцца. Фонд сацыяльнага страхавання для таго і існуе, каб дапамагаць людзям падлячыцца і добра адпачыць.



У апошні час з-за фінансавых цяжкасцей у шэрагу гаспадарак вобласці закрываюцца комплексныя прыёмныя пункты бытавога абслугоўвання насельніцтва. А вось у вёсцы Жыліхава, цэнтральнай сядзібе калгаса «Бальшавік» Капыльскага раёна, заўсёды гасцінна сустракае наведвальнікаў гаспадыня прыёмнага пункта **Алена ЗАРУБІНА,** якую вы бачыце на здымку разам з намеснікам старшыні гаспадаркі **Віктарам ШАВАНАВЫМ.**

*Фота Анатоля БАСАВА.*

## Думкі ўслых

***Яны пачуты ад членаў працоўных калектываў, прафсаюзных актывістаў і г.д. Людзі гаварылі шчыра і адкрыта. Тое, што думалі.***

КАЛІ прынялі закон аб абароне дзяцей, вельмі моцна пляскалі ў ладкі. Гаварылі, што нарэшце ўсё лепшае ім будзе выдзяляцца. А дайшло да практычных спраў, то ўсё пакацілася кулём. Даводзіцца літаральна вымольваць ва ўрада грошы, каб хоць неяк арганізаваць летняе аздараўленне дзяцей.

НАШ урад нагадвае аркестр, у якім музыканты не прытрымліваюцца нот, а граюць самі па сабе, як умеюць.

УСЕ толькі і думаюць аб дабрабыце народа. У тым ліку і прафсаюзныя кіраўнікі. Яны пішуць заявы, пратэсты, заключаюцца пагадненні з органамі ўлады. Аднак гэта падобнае на барацьбу з растапыранымі пальцамі, паколькі перагаворы прафсаюзаў з органамі ўлады нападамінаюць дыялог глухога са сляпым. З прафсаюзамі ўрад не лічыцца. А час ужо так сказаць прафсаюзнае слова, каб яго пачулі і тут жа станоўча адрэагавалі.

НІ АДЗІН пагаджальны пратакол не выкананы, а мы працягваем угаворваць адзін аднаго: давайце і далей весці перагаворы з урадам, дамаўляцца з ім. Мы пастаянна просім, а ў адказ — нуль увагі. Неабходна больш жорстка патрабаваць выканання дагавораў і пагадненняў, заключаных прафсаюзнымі камітэтамі з органамі ўлады.

РАЗМЕР зарплаты неабходна цесна ўвязваць з эфектыўнасцю работы кожнага.

ПРЫВАТЫЗАЦЫЯ дзяржаўнай маёмасці — якая тут пазіцыя прафсаюза? Няма механізма яе правядзення. Неабходна спрасціць сам працэс яе ажыццяўлення.

РЭЙТЫНГ органаў улады зараз невысокі. З імі насельніцтва звязвае рэзкі рост цэн, пагаршэнне свайго жыццёвага ўзроўню. Не прафсаюзы зараз лямантуюць аб павышэнні мінімальнага размеру зарплаты, — да гэтага настойліва штурхае рэальная абстаноўка. Не зарплата правакуе рост інфляцыі, а няўменне ўрада знайсці канкрэтныя шляхі выхаду народнай гаспадаркі рэспублікі з эканамічнага тупіка.

■ Прыватызацыя

## ЗАТАРМОЖАНАСЦЬ

***Перавод эканомікі на рынычныя адносіны непарыўна звязаны са стварэннем недзяржаўных структур. На пачатак сёлетняга года ў вобласці прыватызавана 39 прадпрыемстваў рэспубліканскай уласнасці і 36 — камунальнай. Сёлета намечана прыватызаваць адпаведна 50 і 113 аб'ектаў.***

Як бачым, працэс, хоць і марудна, пайшоў. Затармажанасць яго выклікана запозненай распрацоўкай заканадаўчай базы і яшчэ тым, што большасць мясцовых Саветаў не праяўляюць асаблівай актыўнасці. І адкуль ёй быць, калі яны не мелі ад гэтага амаль ніякай карысці? У адпаведнасці з Законам «Аб дзяржаўным бюджэце на 1993 год» сродкі ад прыватызацыі размяркоўваліся так: у мясцовы бюджэт абласнога ўзроўню ішло толькі 30 працэнтаў ад атрыманай сумы, а ў раённы і гарадскі — і таго менш. Сёння ўсе сродкі паступаюць у мясцовы бюджэт, а час упушчаны.

Прыватызацыя — вельмі складаны і балючы працэс. Няпроста правесці плаўную палітычную і эканамічную перабудову грамадства. Мы яшчэ не гатовы да смелых і рашучых дзеянняў. Кіраўнікі міністэрстваў і ведамстваў не маглі нават і ўявіць, што страцяць прывычныя рычагі кіравання прадпрыемствамі. Таму і не былі прыхільнікамі прыватызацыі. Поспеху можна дабіцца толькі тады, калі насельніцтва цвёрда ўсвядоміць, што іншага шляху для павышэння свайго дабрабыту няма.

А пакуль што мы толькі па-сапраўднаму і пачынаем рэфармаванне дзяржаўнай уласнасці. У Беларусі прыватызацыя пачалася ў 1991 годзе, хаця на той момант практычна не існавала ніякай заканадаўчай і нарматыўнай базы. Быў толькі саюзны закон аб арэндзе, які прадугледжваў выкуп арэнднага прадпрыемства працоўнымі калектывамі. Паспяшаліся яго скарыстаць 60 прадпрыемстваў, якія сталі народнымі. Тады ж і ў фірме «Мілавіца» (былое швейнае аб'яднанне «Камсамолка») прынялі рашэнне аб прыватызацыі. За кошт крэдыту выкупляецца маёмасць фабрыкі. Вызначаны механізм разліку долі маёмаснага фонду для кожнага працуючага — за аснову бярuцца сярэдняя зарплата за 1991 год і стаж работы на прадпрыемстве. Неўзабаве склікаецца канферэнцыя аб стварэнні акцыянернага таварыства. Распрацоўваецца парадак размеркавання акцый, іх набыцця і выкупу.

Не сказаць, што акцыяніраванне адразу ж прынесла калектыву важкія здабыткі. Нестабільнасць з забеспячэннем матэрыяльнымі рэсурсамі, няспынны рост цэн на сыравіну, паліва, энергію, іншыя кампаненты крызісу ўносілі дысбаланс у вытворчы працэс. І ўсё ж выпуск тавараў народнага спажывання, хоць і павольна, павялічыўся летась у параўнанні з папярэднім годам на 6,1 працэнта (у рознічных цэнах). Імкнуцца не дапусціць падзення і зараз.

Наладжвалася сумесная вытворчасць з нямецкай фірмай «Трыумф», асвойвалася заходняя тэхналогія. Расшыраўся раён паставак на замежны рынак. Праўда, удзельная вага экспарту ў агульным аб'ёме яшчэ не занадта вялікая і склала летась каля двух працэнтаў. Сёлета ж думаюць яго значна павялічыць. У асноўным усе вырабы — 80 працэнтаў — рэалізуюцца ў Беларусі.

Не менш важным на «Мілавіцы» лічаць стварэнне бяспечных умоў працы, захаванне правіл і норм тэхнікі бяспекі. На ажыццяўленне мерапрыемстваў па ахове працы летась затрачана звыш 200 мільёнаў рублёў, а сёлета сумесна з дзяржаўнымі экспертамі будзе праведзена ацэнка ўмоў працы і атэстацыя рабочых месц.

Расла і зарплата. За першы квартал яна склала 450 тысяч рублёў, у тым ліку ў рабочых — 432 тысячы.

Калектыўны дагавор на сёлетні год прадугледжвае шэраг сацыяльных ільгот для супрацоўнікаў фірмы. Часткова кампенсуецца пражыванне на прыватнай кватэры, харчаванне ў рабочай сталовай. Тым, хто ідзе ў адпачынак, выплачваецца матэрыяльная дапамога ў размеры тарыфнай стаўкі, а на пенсію — мінімальная зарплата за кожны поўны год работы ў фірме, але не больш трыццаці. Ажыццяўляецца даплата да пенсіі інвалідам працы, аплата жыллёва-камунальных паслуг — маці-адзіночкам.

Пад пастаяннай апекай прафкома і адміністрацыі знаходзяцца пенсіянеры — былыя супрацоўнікі фірмы. Традыцыйнымі сталі «дні пажылых людзей». Не забыты і ветэраны вайны.

Прычым усе пытанні дзейнасці прадпрыемства вырашаюцца самастойна членамі калектыву. Яны маюць пэўную колькасць акцый, кантрольным пакетам не валодае ніхто. Вышэйшы орган кіравання — агульны сход акцыянераў, які вызначае стратэгічныя напрамкі сацыяльна-эканамічнага развіцця. Выкананне ж намечанага арганізуе назіральны савет — у яго ўваходзяць прадстаўнікі калектываў вытворчых падраздзяленняў.

І яшчэ — старшыня прафкома. Мы невыпадкова падкрэсліваем гэта.

Уласнасць — гэта перш за ўсё ўлада ў гаспадарцы. Надзеі ж большасці стаць уласнікамі ў выніку раздзелу гадамі створанага народнага багацця з дапамогай акцыяніравання, прыватызацыйных чэкаў — ілюзорныя. Сацыяльнай базай рэформ урада ўсё больш становіцца прыватны прадпрымальнік. Існуючыя законы аб раздзяржаўленні і прыватызацыі не даюць калектывам асобных правоў для вырашэння гэтых складаных пытанняў. У большай ступені іх вырашэнне — за камітэтамі дзяржмаёмасці. А прафсаюзы выступаюць за раўнапраўнае развіццё ўсіх форм уласнасці. Выбар іх павінен вызначацца на аснове эканамічнай мэтазгоднасці і сацыяльнай справядлівасці, што выключаюць ушчамленне правоў і інтарэсаў членаў калектыву, скарачэнне рабочых месц.

■ Ахова працы

## У АДНОЙ ЗАПРЭЖЦЫ

У ПРАФСАЮЗНЫХ АКТЫВІСТАХ ходзяць, як правіла, найбольш кваліфікаваныя і сумленныя работнікі. Тыя, для каго паняцце «гонар калектыву, прадпрыемства» — не пусты гук, хто высока трымае прафесійную марку. Не толькі выкрывае пралікі ў арганізацыі працы, а бачыць шляхі яе ўдасканалення. Менавіта таму доўга і не думалі ў прафкоме аб"яднання «Мінскбудматэрыялы», рэкамендуючы токара механічнага цэха галаўнога прадпрыемства Паўла Вераскоўскага старшынёй камісіі па ахове працы. Не адзін год аддаў Павел Сідаравіч вытворчасці, назубок вывучыў яе плюсы і мінусы. Як і іншыя члены камісіі. Так што іх не трэба вадзіць за руку па цэхах. Самі цудоўна ведаюць, дзе якія ўмовы для работы. Чаго не заўважаць, тут жа падкажуць 133 грамадскія інспектары па ахове працы — іх выбралі ва ўсіх структурных падраздзяленнях аб"яднання.

Тут якраз поўнае супадзенне пазіцый адміністрацыі і прафсаюза. Для іх адна з галоўных задач — стварыць добрыя ўмовы для працуючых, дабівацца строгага захавання правіл і норм тэхнікі бяспекі, папярэджваць траўматызм і захворванні на вытворчасці, абавязкова выконваць мерапрыемствы па ахове працы, прадугледжаныя калектыўным дагаворам.

Нягледзячы на крызіс нашай эканомікі, у аб"яднанні вышукваюць пэўныя сродкі для ажыццяўлення намечанага. Змаглі ж тут пабудаваць і няблага абсталяваць аздараўленчыя комплексы з плавальным басейнам, саунай і трэнажорнай залай. Пераабсталёўваецца пакой асабістай гігіены для жанчын. Дзейнічаюць выцяжныя вентыляцыйныя сістэмы на ўчастках, ва ўзорным стане вытворчыя і бытавыя памяшканні. Ёсць сталовыя, адна з іх працуе кругласутачна, некалькі буфетаў па выдачы гарачай ежы, пункт-салон спецадзення і рамонту, пральня...

Аднак вытворчасць ёсць вытворчасць, і не ўсе з належнай адказнасцю выконваюць нормы і правілы тэхнікі бяспекі. І ўсё ж каэфіцыент частаты траўматызму ў аб"яднанні больш чым у тры разы ніжэйшы за галіновы. А прафзахворванняў вось ужо каторы час не здаралася. Так ім трымаць і надалей! Невыпадкова прэзідыум абкома работнікаў будаўніцтва і прамбудматэрыялаў за актыўную добрасумленную работу па ахове працы і паляпшэнню вытворча-бытавых умоў на вытворчасці ўзнагародзіў работнікаў структурных падраздзяленняў аб"яднання «Мінскбудматэрыялы» Ганаровай граматай і грашовай прэміяй. Сярод іх — Павел Вераскоўскі, газаэлектразваршчыкі Уладзімір Гук і Міхаіл Пацееў, электрык Уладзімір Цап, слесары Іван Малахоўскі і Адам Лапко, наладчык абсталявання Дзмітрый Шыторля і іншыя.

Яны ж, як і заўсёды, па-ранейшаму не даюць спакою тым, хто аслабляе ўвагу да пытанняў культуры вытворчасці. Некалькі разоў прафком аб"яднання прымаў меры грамадскага ўздзеяння да адказных за выкананне работ па ахове працы. У сваю чаргу і адміністрацыя накладала на вінаватых дысцыплінарныя спагнанні.

Вось так, агульнымі намаганнямі і дабіваюцца парадку ў цэхах і на ўчастках аб"яднання.

Падобны падыход практыкуецца і на шэрагу іншых прадпрыемстваў. Аднак не на ўсіх. Сёлета пры агульным скарачэнні аб"ёмаў вытворчасці ў вобласці загінулі 54 чалавекі — у параўнанні з леташнім перыядам рост на 10 працэнтаў. Смяротны траўматызм узрос у гаспадарках і арганізацыях аграпрамысловага комплексу, на прадпрыемствах энергетыкі, хімічнай прамысловасці, чыгуначным транспарце. Абсалютная большасць траўм — вынік нездавальняючай арганізацыі работ, парушэнняў норм і правіл тэхнікі бяспекі, вытворчай і працоўнай дысцыпліны.

Прафсаюзы павінны максімальна выкарыстоўваць свае права грамадскага кантролю за захаваннем заканадаўства аб працы, праз калектыўныя дагаворы дабівацца паляпшэння ўмоў працы на кожным рабочым месцы, узмацніць намаганні па сацыяльнай абароне пацярпеўшых і сем"яў загінуўшых на вытворчасці. Нельга забываць, што сёлета з мая чалавеку, атрымаўшаму калецтва на рабоце, выплачваецца кампенсацыя, незалежна ад размеру атрымліваемай пенсіі. Аднак вымушаны адзначыць, што падобныя выплаты пацярпеўшым на вытворчасці нярэдка па розных прычынах не робяцца. Даводзіцца ўмешвацца грамадскай інспекцыі па працы. І за пяць месяцаў дзякуючы ёй выплачана больш чатырох мільёнаў рублёў.

*Старонку падрыхтаваў Пётр СІДАРОВІЧ.*

# Святкаванне 50-годдзя вызвалення Беларусі ад фашысцкіх захопнікаў у г.Мінску







Фота Анатоля БАСАВА.



■ Энтузіясты

# БЕЗ КАРАНЁЎ НІШТО НЕ ЗАЦВІТАЕ

**Гэта было гадоў дваццаць назад. На пасяджэнне літаратурнага аб"яднання, якое працавала пры газеце "Мінская праўда", завітаў новенькі. Прысеў на стуле, што стаяў бліжэй да дзвярэй. Уважліва слухаў пачынаючых паэтаў. Праз некалькі хвілін і сам падняўся, трымаючы ў руках лісткі з рыфмаванымі радкамі. Ціха, нібы толькі для сябе, пачаў чытаць верш пра хлеб.**

У рэспубліцы, бадай, няма літаратара, які б у сваёй творчасці не закрануў гэтую святую тэму. Але ў вершы новенькага было нешта сваё, непаўторнае. Кожны з прысутных адчуў шчымлівае вяртанне да пяшчоты матчыных рук, да крохкага блакіту летніх нябёсаў, да пахаў жытнёвых разліваў...

У абмеркаванні верша прынялі ўдзел Ніна Галіноўская, Алесь Камароўскі, Алесь Пісарык — пазней усе яны былі прыняты ў Саюз пісьменнікаў рэспублікі. Адным словам, верш быў рэкамендаваны да друку і праз некалькі тыдняў паявіўся на старонках "Мінскай праўды".

Менавіта на тым пасяджэнні літаратурнага аб"яднання і адбылася мая першая сустрэча з Сяргеем Давідовічам, сяржантам-вадзіцелем міліцэйскай машыны. Вершамі ён рэдакцыю не "закідваў", над кожным радком працаваў пакутліва. Праз некалькі гадоў юнака накіравалі на вучобу ў Мінскую вышэйшую школу Міністэрства ўнутраных спраў, пасля заканчэння якой працаваў памочнікам начальніка дзяжурнай часці ўпраўлення ўнутраных спраў аблвыканкома.

Аднойчы заглянуў на яго рабочае месца. Лейтэнант Сяргей Давідовіч амаль не выпускаў з рук тэлефонную трубку. Званілі з самых розных месц Міншчыны. І кожнае чарговае паведамленне страшнейшае за папярэдняе: "кагосьці пераехала машына", "камусьці ў бойцы рассеклі галаву", "учынена рабаўніцтва". Па кожнаму выпадку Сяргей прымаў канкрэтнае рашэнне. Тады і падумалася: як у адным сэрцы ўжываюцца суровая міліцэйская будзённасць і пяшчота паэтычнага радка? Жылі яны памяркоўна, нават дапаўнялі адна адну. І раптам даведваюся яшчэ пра адзін талент работніка міліцыі. Ён пачаў пісаць карціны, ды так прафесійна, што работам самадзейнага мастака знайшлося месца ў галоўнай выставачнай зале Рэспубліканскай карціннай галерэі. На прэзентацыі яго выставы прысутнічалі міністры культуры і ўнутраных спраў, народны мастак краіны У.Стальмашонак, кампазітар Я.Глебаў, сябры, паплечнікі па службе, мастацтвазнаўцы. Такую зацікаўленасць выклікаюць работы далёка не кожнага маладога мастака. І яшчэ аб адным. Неяк уключаю тэлевізар. На экране — Сяргей. З гітарай у руках. Як ён хораша спявае — сапраўдная асалода для душы! Дарэчы, беларускімі кампазітарамі шмат якія яго вершы пакладзены на музыку. Вольнага часу ў С.Давідовіча мала, большасць яго забірае дэпутацкая дзейнасць — ён дэпутат Вярхоўнага Савета рэспублікі. Але як бы ні было цяжка, па-ранейшаму сябруе з паэзіяй. Выдаў некалькі кніжак. Летась на Першым злёце маладых паэтаў Міншчыны, які праходзіў у славутых купалаўскіх Акопах, што на Лагойшчыне, я даведаўся, што Давідовіч нарадзіўся ў суседняй вёсцы Карпілаўка. Яна ж дала свету пісьменніка Ядвігіна Ш. /Антона Лявіцкага/, сюды любіў наведвацца Янка Купала.

Кніжку Сяргея "Люстэрка лёсу" я прачытаў на адным дыханні. Яна ўразіла шчырасцю, сваёй непасрэднасцю, багаццем народнай фразеалогіі з родных мясцін /там пісаліся купалаўскія "Паўлінка", "Раскіданае гняздо", "Тутэйшыя"/, прастатой пісьма, а разам з тым — глыбокімі філасофскімі развагамі, трапнымі назіраннямі, абагульненнямі. Кніга ілюстравана малюнкамі яе аўтара. Заканчваецца паэма раздзелам "Роздум", у якім ёсць такія радкі:

***Бо хто ж таго не ведае,***
***не знае —***
***Без каранёў нішто не зацвітае...***

Глыбокія, вузлаватыя карані пускае ў родную літаратуру падпалкоўнік, паэт, мастак, самадзейны кампазітар. Аб гэтым яскрава сведчыць той факт, што нядаўна Сяргей Давідовіч прыняты ў Саюз пісьменнікаў рэспублікі. Віншуем!

*Уладзімір КОБРЫН.*

Спорт

## ЗА КУБАК СЕЗОНА

24 чэрвеня ў фінале розыгрышу Кубка Беларусі па футболу сустракаліся дынамаўцы Мінска і бабруйскі "Фандок". Перамаглі тады мінчане — 3:1. І вось гэтыя ж каманды на мінскім стадыёне "Дынама" аспрэчвалі Кубак сезона.

На 10-й мінуце капітан "Фандока" Сяргей Яромка адкрыў лік. Бабруйчане маглі замацаваць поспех, але пасля моцнага удару Уладзіміра Карпенкі мінчан выратавала штанга.

У сярэдзіне першага тайма дынамаўцы поўнасцю авалодалі ініцыятывай і ўсё часцей і часцей турбавалі варатара гасцей. На 34-й мінуце пасля дакладнай перадачы Пятра Качуры Алег Чарняўскі ўстанаўлівае раўнавагу, а літаральна праз тры мінуты сам Качура забівае мяч і мінчане выходзяць наперад.

У другім тайме футбалісты "Фандока" двойчы дабіваюцца поспеху. Спачатку Віталь Тараканаў выдатна завяршыў атаку сваёй каманды, а потым Сяргей Яромка прымушае гасцей пачынаць з цэнтра поля. І ўсё ж бабруйчане прайгралі. Валянцін Хацкевіч, Уладзімір Журавель і Яўген Кашанцаў устанавілі канчатковы вынік гэтага матча на карысць "Дынама" — 5:3.

## РЭКОРД СЛАВУТАГА АСІЛКА

У праграме спартыўнага свята, прысвечанага 50-годдзю вызвалення Беларусі ад фашысцкіх захопнікаў, выступіў славуты мінскі асілак Вячаслаў Харанека. Ён абнавіў свой жа рэкорд, узняўшы левай рукой 32-х кілаграмовую гіру за тры мінуты 102 разы.

Прысутныя на стадыёне "Дынама" мінчане і госці нашага горада горача віталі атлета, які з"яўляецца аўтарам многіх рэкордаў у гіравым спорце.

## МІНСКІ МАРАФОН

У дзень святкавання 50-годдзя вызвалення Рэспублікі Беларусь на мінскім стадыёне "Дынама" быў дадзены старт першаму мінскаму марафону.

Дыстанцыю 42 кіламетры 195 метраў пераадолелі 219 мінчан і гасцей з Расіі, Украіны, Латвіі, Літвы і Малдовы. Перамог майстар спорту з Салігорска Юрый Пушко, які паказаў вынік 2 гадзіны 32 мінуты 27 секунд. Мінчане Валерый Курс і Андрэй Каваленка сталі прызёрамі гэтых спаборніцтваў.

Сярод пераможцаў у сваіх узроставых групах пераважная большасць мінчан. Гэта Віктар Платонаў, Сяргей Коваль, Міхаіл Кандрашкін, Аляксей Князеў, а таксама Віктар Новік з Салігорска.

"Замахнуліся" на марафон і жанчыны. Лепшы вынік паказала мінчанка майстар спорту міжнароднага класа Алена Цухло — 2:47.04. Добрага слова заслугоўваюць мінчанкі Яніна Ляпіна і Людміла Агеева, якія сталі пераможцамі ў сваіх узроставых групах.

Каля 240 спартсменаў і прыхільнікаў аздараўленчага бегу стартавалі на 10 кіламетраў. Першым фінішаваў вядомы мінскі бягун Уладзімір Танчынскі — 29.20. Толькі дваццаць секунд прайграў яму інструктар Капыльскага фізкультурна-аздараўленчага комплексу Рыгор Нікалаеня. Сярод жынчын на гэтай дыстанцыі перамагла Галіна Барук з Гродна.

Пераможцы і прызёры ва ўсіх узроставых групах атрымалі каштоўныя прызы фірм "Сполдзінг" і "Кока-Кола", якія выступілі спонсарамі мінскага марафона. Памятныя падарункі атрымалі ўсе, хто закончыў дыстанцыю.

*Павел ЖУРБА*




### 5 ліпеня, аўторак

***Беларускае тэлебачанне***

16.00. Абласныя навіны (Віцебск).
16.15. "Халады ў пачатку вясны".
16.45. Навіны (з сурдаперакладам).
16.55. Існасць.
17.25. Навіны Бі-бі-сі.
18.00. Эканамікст.
18.10. "Вялікая Айчынная". Д/ф. 16-я с.
19.00. Эканамічная хваля.
19.45. Стоп-кадр.
20.05. Вакальны цыкл Р.Шумана.
20.25. Пяць хвілін на жарты.
20.30. Кантакт.
20.35. Калыханка.
21.00. Панарама.
21.35. "Пасля Перамогі". 2-я с.
22.10. Пад купалам Сусвету.
22.20. "Час выбраў нас". 4-я с.
23.30. І Міжнародны пленэр імя Марка Шагала ў Віцебску. Ч.3-я.
0.30. НІКа.
0.45. Надвор'е.

***Канал "Астанкіна"***

16.05. Рок-урок.
16.40. Планета.
17.25. Дакументы і лёсы.
17.40. Знак пытання.
17.50, 20.35. Надвор'е.
18.00. Гадзіна пік.
18.25. "Дзікая ружа". Тэлесерыял.
18.55. Тэма.
19.40. Добрай ночы, малышы!
20.45. З першых рук.
20.55. Залаты шлягер.
21.45. "Пунсовы першацвет" (ЗША — Вялікабрытанія). 1-я с.
23.25. Футбол. Чэмпіянат свету. 1/8 фіналу.

***Канал "Расія"***

15.00, 19.00, 22.00. Весткі.
15.50. Там-там навіны.
16.05. Новая лінія.
16.50. Ваша права.
17.05. Чалавек справы.
17.40. Свята кожны дзень.
17.50. Ніхто не забыты.
17.55. Музыка на дэсерт.
18.10. L-клуб.
19.25. Падрабязнасці.
19.35. Рэпарцёр.
19.55. Чэмпіянат свету па футболу. 1/8 фіналу.
22.20. Аўтаімгненне.
22.25. Зоркі гавораць.
22.30. Спартыўная карусель.
22.35. "Сярод шэрых камянёў". Маст.фільм.

### 6 ліпеня, серада

***Беларускае тэлебачанне***

8.00. Раніца рэспублікі.
8.10. Пад купалам Сусвету.
8.20. "Пасля Перамогі". 2-я с.
8.55. Пяць хвілін на жарты.
9.00. Надвор'е.
9.10. "Час выбраў нас". 4-я с.
10.20. Відзьма-нявідзьма.
11.20. "Скрыжаванні вайны". Спектакль. Ч.3-я.
12.10. "Мара маленькага асляняці". Мультфільм.
12.20. "Купальская ноч".
13.30. Навіны.
Экран — абітурыенту
13.40. Матэматыка.
14.10. Гісторыя.
14.40. Фізіка.
15.10. Канцэрт лаўрэатаў Рэспубліканскага конкурсу юных выканаўцаў на духавых інструментах музычнай школы № 14 г.Мінска.
15.40. "Ірынчын дзённік".
15.55. Праграма перадач.
16.00. Абласныя навіны (Гомель).
16.15. "Калі Віцебск быў Парыжам". Д/ф.
16.45. Навіны.
16.55. Фільм-канцэрт.
17.25. Навіны Бі-бі-сі.
18.00. "Вялікая Айчынная". Д/ф. 17-я с.
18.50. "Крок". "Карамболь". Урач-сексапатолаг Д.З.Капусцін.
19.20. Праблемы аховы навакольнага асяроддзя.
20.05. Праграма для дзелавых людзей.
20.25. Пяць хвілін на жарты.
20.30. Кантакт.
20.35. Калыханка.
21.00. Панарама.
21.35. "Пасля Перамогі". 3-я с.
22.20. Пад купалам Сусвету.
22.30. "Час выбраў нас". Заключная серыя.
23.35. Дзесяць хвілін плюс стагоддзе.
23.45. НІКа.
24.00. Надвор'е.
0.10. Грэка-рымская барацьба. Беларусь — Расія.

***Канал "Астанкіна"***

8.00. Агляд рынку нерухомасці.
8.15. "Месяцавая дарожка".
8.30. "Дзікая ружа".
8.55. Клуб падарожнікаў.
9.45, 0.15. Прэс-экспрэс.
10.00, 15.00, 17.00, 20.00, 23.00. Навіны.
10.20. "Джыўс і Вустэр". Тэлесерыял.
15.25. "Вайна гобатаў".
15.50. Дзённік дзіцячага кінафестывалю.
16.05. "Лятаючы дом".
16.40. Тэлерадыёкампанія "Мір".
17.25. Свет сёння.
17.40. Тэхнадром.
17.50, 20.35. Надвор'е.
18.00. Гадзіна пік.
18.25. "Дзікая ружа". Тэлесерыял.
18.55. "Адродзіцца натхненне...". Акцёр В.Гафт і мастак М.Сафронаў. Вядучы — У.Малчанаў.
19.40. Добрай ночы, малышы!
20.45. Чалавек і закон.
20.55. "Пунсовы першацвет". 2-я с.
22.15. Фестываль песні імя Я.Мартынава (г.Данецк).
23.45. Новыя жыхары.

***Канал "Расія"***

6.00, 11.00, 15.00, 19.00, 22.00. Весткі.
7.00. Час дзелавых людзей.
7.30. Добрай раніцы.
8.00. Навіны Эй-бі-сі.
8.30. Пілігрым.
9.15. Ура, канікулы! "Залатыя рогі", "У заапарку рамонт".
10.40. Сялянскае пытанне.
15.20. Студыя "Рост".
15.50. Там-там навіны.
16.05. Новая лінія. "Далёкі Усход".
16.50. Рубяжы.
17.05. Будні.
17.45. Свята кожны дзень.
17.55. "Музычная легенда". С.Лемешаў, І.Казлоўскі.
19.25. Падрабязнасці.
19.35. "Санта-Барбара". Тэлесерыял.
20.25. Пяць хвілін аб добрым жыцці.
20.30. Рэк-тайм.
21.05. Зала чакання.
22.20. Аўтаімгненне.
22.25. Зоркі гавораць.
22.30. Спартыўная карусель.
22.35. Экран крымінальных паведамленняў.
22.45. Зорны дождж.

### 8 канал

**5 июля, вторник**

19.00 Мультсериал "Вольтрон".
19.25 Студия "ИНТЕКС": "Новости".
19.35 Многосерийный фильм "Лабиринт правосудия": "История Леона".
20.25 БЕЛНЕКС представляет мультипликационный фильм Уолта Диснея "Аладдин", 2-я часть.
20.55 Телесериал "Морена Клара", 42-я серия.
21.45 У афиши.
22.00 БЕЛНЕКС представляет фантастический боевик "Киборг-ищейка".

**6 июля, среда**

19.00 Мультсериал "Вольтрон".
19.25 СОЛТЕК: "Новости".
19.30 Полицейский сериал "Хилл Стрит Блюз": "Чемодан".
20.20 БЕЛНЕКС представляет мультипликационный фильм Уолта Диснея "Аладдин", 3-я часть.
20.50 Документальный фильм "Освящение престола".
21.20 Астра-класс..
21.45 БЕЛНЕКС представляет художественный фильм "Нико 6: зона смертельной опасности".

■ Ваш сад, ваш агарод

# ВОРАГІ ЯБЛЫКА І ЯГАДЫ

**Умелы догляд дрэў і кустоў дазваляе стаць пераможцам у барацьбе з імі**

Сёлетняе надвор"е не абяцае добрага ўраджаю садавіны. Аднак і яго могуць папсаваць шкоднікі. Ці можна ў гэты час яшчэ зрабіць што-небудзь, каб папярэдзіць напасць або хоць неяк зменшыць яе шкоду?

Наш субяседнік — начальнік абласной станцыі аховы раслін **А.С.ЯГОРАНКА.**

— Наколькі мне вядома, у нашай вобласці сады перад цвіценнем апрацоўваюць далёка не ўсе гаспадары. Таму частку завязі пашкодзіў кветаед, і яна асыпалася. Цяпер, калі на галінках засталіся плады, якія развіваюцца, кроны дрэў можна апрацоўваць інсектыцыдамі. Дазваляецца выкарыстоўваць карбафос. Бяруць яго 30—40 грамаў на 10 літраў вады і апырскваюць кроны пасля цвіцення. Так знішчаюцца шкоднікі, якія засталіся на завязі, лістах.

Пазней жа, калі плады дасягнуць велічыні арэха, іх пашкоджвае пладажэрка. Яна робіць хады ў яблыку ці грушы, выядае насенную камеру, і плод становіцца практычна непрыгодны да ўжывання.

Супраць пладажэркі сад рэкамендуецца апрацаваць карбафосам або біялагічным прэпаратам, які называецца "трыхаграма" і знішчае яйкі пладажэркі. Атрымліваюць прэпарат у Прылуках Мінскага раёна ў спецыяльнай біялагічнай лабараторыі, якую ўзначальвае Анатоль Уладзіміравіч Круцько. Калі ёсць патрэба, можна звяртацца непасрэдна да яго.

***— Амаль у кожнага дачніка на ўчастку растуць трускалкі. Іх псуе нейкая гніль. Асабліва ў такое дажджлівае надвор"е, як сёлета.***

— Гэтае захворванне так і называецца — шэрая гніль. Паяўляецца яно часцей за ўсё на запушчаных, недагледжаных пасадках. Прытым на ранніх сартах. Потым хвароба пераносіцца і на познія.

У мяне дома растуць трускалкі двух сартоў — раннія і познія. І, як правіла, лепшыя ягады атрымліваюцца з ранніх. Таму што, хоць і паяўляецца інфекцыя на ранніх сартах, але з іх яшчэ можна ўзяць ягады. А познія ўжо настолькі пашкоджаны хваробай, што ягады становяцца амаль непрыгодныя да ўжывання.

Грыбок, які шкодзіць трускалкі, звычайна знаходзіцца ў глебе. Каб ён менш распаўсюджваўся, рэкамендуецца міжрадкоўі пасыпаць пілавіннем. Часам іх высцілаюць плёнкай або дробна насечанай саломай. Выкарыстоўваюць і яловую ці сасновую ігліцу. Карацей, ягады трэба ізаляваць ад глебавай сырасці.

І яшчэ адна парада. Пустазелле і іншае смецце, якое можа перагнісці, людзі, як правіла, выносяць за межы ўчасткаў. І з камячкамі зямлі, якая трымаецца на каранях пустазелля, заўсёды выносяць самую ўрадлівую глебу. Пажыўныя рэчывы — азот, фосфар, калій, мікраэлементы — за межы ўчастка выносяцца і са сцёбламі раслін.

Таму ўсё пустазелле, іншыя адходы арганічнага паходжання трэба складваць у спецыяльную ямку ці скрыню, або проста ў кучку — летам і восенню. Праз месяц-другі знізу вы ўбачыце мноства дажджавых чарвякоў, якія перапрацоўваюць складзеныя вамі арганічныя рэшткі на гумус. А гумус — гэта самая пажыўная для раслін частка глебы. У ёй ёсць усе даступныя элементы сілкавання.

Трэба памятаць, што калі мы ўносім у глебу неперапрэлы гной, там у даступнай форме ёсць толькі азот. Усе астатнія элементы стануць даступныя, калі гной перапрэе. Таму, калі ўладальнік дачнага ўчастка хоча мець добры ўраджай агародніны, то павінен уносіць на градкі толькі перапрэлы гной. Свежы, неперапрэлы варта скласці ў кучу і перамяшаць з тымі раслінными рэшткамі, што засталіся пасля праполкі ці ўборкі. Лісце, бацвінне таксама не павінна прападаць марна. Куча няхай паляжыць хаця б з паўгода.

***— Як быць з карэннем пырніку?***

— Яго трэба спярша высушыць, каб не засталося ніводнай жывой пупышкі, а тады таксама варта пакласці ў гэтую кучу. І яшчэ. Агародніку трэба памятаць, што пад агуркі неабходна класці свежы, неперапрэлы гной. А вось што датычыцца іншых агародных культур, то ім патрэбен абавязкова перапрэлы гной.

Каб кожны год атрымліваць добры ўраджай агрэсту і парэчак, кусты на зіму абкладваюць гноем, бо іх карэнне знаходзіцца блізка да паверхні глебы і можа быць пашкоджана маразам. Вясной гной варта разгрэбці. Ураджай ягад у такім разе істотна павялічваецца.

*Іван АБАБУРКА.*



**Коллектив Минского областного центра занятости населения выражает соболезнование директору Несвижского районного центра занятости населения ПИВОВАРЧИКУ Сергею Павловичу в связи с постигшим его горем — смертью ОТЦА.**

**Наш адрас:**
220013, гор.Мінск,
вул.Б. Хмяльніцкага,10-А,паверх 9,
рэдакцыя газеты "Мінская праўда".

ТЭЛЕФОНЫ:
прыёмнай рэдакцыі —68-29-76,
намесніка галоўнага рэдактара —68-25-81,
адказнага сакратара —68-26-48,
сакратарыята —68-26-48,
аддзелаў: Саветаў —68-26-38,
адукацыі і культуры —68-25-76,
сацыяльна—эканамічнага —68-25-43,
грамадска-палітычнага —68-25-42,
інфармацыйна-аналітычнага —68-28-33,
пісьмаў і маральна-бытавых праблем — 68-25-83,
ілюстрацыі —68-25-03,68-26-48,
камерцыйнага — 68-25-86,
бухгалтэрыі —68-26-65.
Тэлефоны карэспандэнцкіх пунктаў:
у Барысаве —(8-277)5-15-61,Вілейцы — (8-271)5-57-86,Нясвіжы—(8-270)5-41-88, Салігорску — (8-210) 2-49-60.

*ЗАСНАВАЛЬНІК — Мінскі абласны Савет народных дэпутатаў, 220625, г.Мінск, вул. Энгельса, 4.*
"Мінская праўда"— орган Мінскага абласнога Савета народных дэпутатаў.

Намеснік галоўнага рэдактара М.В.КАРОЛЬ.

Рэдакцыя можа друкаваць матэрыялы ў парадку абмеркавання, не падзяляючы пункту гледжання аўтара.

Адказнасць за падбор і дакладнасць апублікаваных фактаў і іншых звестак нясуць іх аўтары.

Рэдакцыя пакідае за сабой права не ўступаць у перапіску з чытачамі.

Час падпісання ў друк: па графіку 22.10.
Нумар падпісаны ў 22.00.

Набрана і звярстана на настольна-выдавецкім комплексе. "Мінскай праўды".
Друкарня выдавецтва "Беларускі Дом друку".
220013, г.Мінск, пр. Ф.Скарыны, 79.

*Тыраж 17775. Індэкс 63923. Зак №69.*

М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12